PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 35 (2207) Год XLIII Беласток 30 жніўня 1998 г. Цана 1,20 зл.

## У пошуках голасу душы народа

Міла Лукша

**— Не ўяўляеце хіба сабе, што ёсць тут у вас дзядзькі, якія спяваюць як Шаляпін! — захапляецца Галіна Таўлай. — Або які цудоўны, незвычайны голас у Веры Дамань з Плянты ці ў яе сястры Паўліны Супрун з Супруноў!**

Дацэнт Галіна Таўлай з Санкт-Пецярбурга ў нас на Беласточчыне не першы раз. Наш рэгіён ведае ўжо някепска. Паразмаўляць можаце з ёю на якой хочаш гаворцы — хоць па-падляшску, хоць па-ліцьвінску. Збірае скарбы нашай песні, шукае галасоў народа. У жніўні г.г. яна, разам з іншымі навукоўцамі і практыкамі ды моладдзю займалася ў Рыбаках над Нарваю ў Міжнароднай летняй школе традыцыйнай музыкі „Архаічны спеў".

Семінар гэты ў чарговы раз арганізаваў фонд „Музыка Крэсаў". Дзейнічае ён ад 1991 года. Створаны ім Цэнтр музыкалагічных і культурных даследаванняў Сярэдне-ўсходняй Еўропы накіраваны да музычных асяроддзяў з цэнтраў у Польшчы, Беларусі, Расіі, Літве і Украіне. Дзеянні гэтага інстытута маюць аб'яднаць інтэлектуальныя асяроддзі пералічаных краін у працы над адбудовай культурнай тоеснасці народаў і этнічных груп гэтай часткі Еўропы. Фонд арганізуе навуковыя канферэнцыі, канцэрты народнай і сакральнай музыкі, вядзе архіў, у якім захоўваецца м.інш. фанаграфічная, фільмавая і фатаграфічная дакументацыя з навуковых экспедыцый.

У сёлетняй школе прынялі ўдзел спецыялісты з Санкт-Пецярбурга, Масквы, Вільні, Варшавы і Кіева. Слухачы — моладзь з усяе Польшчы (Варшава, Люблін, Вроцлаў, Чэнстахова), зацікаўленая музычным архаічным фальклорам польска-беларуска-ўкраінскага памежжа — студэнты музыказнаўства, акцёры, філолагі, ліцэісты, студэнты Каталіцкага люблінскага універсітэта і... вучаніца ляснога тэхнікума, дзеці. Шкада, што не было адпаведнай інфармацыі па Беласточчыне, і забракла... нашай моладзі!

— Ад 1991 года арганізуем навуковыя сімпозіумы, на якія запрашаем з аднаго боку — навукоўцаў, з другога — народных творцаў і моладзь, — сказаў Ян Бэрнат з Любліна з Фонду „Музыка Крэсаў". — Мы знайшлі добрае месца ў Рыбаках, дзе добра падрыхтавана ўсё з тэарэтычна-практычнага боку, куды можна запрасіць шмат асоб, дзе ўсё было наладжана каб іх прыняць, і каб правесці канферэнцыю.

Моніка Мамінска дадала:

— Прымалі ўдзел спецыялісты, якія займаюцца гэтай тэмай, як напрыклад Ігар Мацieўскі ці Галіна Таўлай з Санкт-Пецярбурга, Вячаслаў Шчураў з Маск-

[працяг ☞ 3]



Сям'я Пякарскіх. Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Уся сям'я жыве прадшколлем

**З Барбарай ПЯКАРСКАЙ, старшынёю бацькоўскага камітэта Самаўрадавага польска-беларускага прадшколля н-р 14 у Беластоку гутарыць Ганна Кандрацюк.**

***— Незадоўга пачатак школьнага года. Якая сітуацыя ў беларускім дзіцячым садку?***

— Гэта першы год, калі не трэба змагацца за кожнае дзіця. Упершыню маем дастатковую колькасць кандыдатаў, каб без праблем наладзіць працу двух аддзелаў. Зараз маем 43 дзетак, сярод якіх найбольш, бо аж 15 — шасцігодкаў.

***— З якіх сем'яў выводзяцца гэтыя дзеці?***

— Найбольш у нас дзяцей настаўнікаў. Многа журналістаў, працаўнікоў прыватных прадпрыемстваў, чыноўнікаў. Ёсць дзеці дыпламатаў з пасольства РБ, юрыстаў, лекараў і звычайных людзей. У асноўным, у прадшколле ходзяць дзеці свядомых беларусаў.

***— Ці ёсць бацькі, якія вучацца беларускай мовы ад сваіх дзяцей?***

— Ёсць такія выпадкі. І трэба сказаць, што такія бацькі бываюць надзвычай адданымі беларускай справе. Прыгадаць трэба хаця б Рэнату Більмін, якая арганізавала навучанне беларускай мовы ў ПШ н-р 4.

***— Усё ж такі 43 дзетак на ўвесь Беласток гэта невялікая колькасць?***

— У прадшколле ходзяць перш за ўсё дзеці бацькоў, якім беларускасць не мяшае ў прыватным жыцці. Вядома, што некаторыя „афіцыйныя" беларусы сваіх дзяцей у беларускае прадшколле не пасылаюць, хаця публічна любяць наракаць на стан беларускай асветы, на праследы, асіміляцыю.

***— Што заахвочвае цябе змагацца за існаванне прадшколля?***

— Трэба тут перш за ўсё адзначыць важнасць бацькоў. Гэта яны ствараюць добрую атмасферу — бескарысный дапамогай, ініцыятывамі, творчымі задумамі ці пошукам спонсараў. Хаця б нядаўна пані Лена Палякаў пашыла дзецям уборы для спектакля, а пан Хомік зрабіў сталярскія рэквізіты для гэтага выступлення. Згадайма хаця б экскурсію ў Белавежу, якую наладзіў Пятро Юшчук, ці сцэнарыі пастановак, якія пішуць журналісты „Нівы".

***— Што новага чакае дзяцей у гэтым навучальным годзе?***

— Ад верасня настаўніцы пачнуць карыстацца новай праграмай, якую распрацавалі самі. Мяняюцца таксама настаўніцы — гэтыя, што працавалі з малечамі, стануць працаваць у старэйшай групе, а Альжбета Бурачэўская і Эва Гняздоўская пяройдуць у аддзел для малечаў. У далейшым будзе працаваць танцавальна-тэатральны гурток, будзе беларуская рытміка і абрадавы тэатр, які супольна з дзецьмі ладзяць бацькі і настаўнікі. Прадбачваем выступленні нашых тэатраў, а таксама многія экскурсіі.

***— Твае дачушкі, Ганулая і Лідка, любяць хадзіць у прадшколле?***

— Так. А калі там рыхтуецца нейкая пастаноўка, яны ведаюць не толькі свае ролі, але і сваіх сяброў. Нядаўна наша сям'я адпачывала на Мазурах, дзе былі людзі з розных куткоў Польшчы. Нашы дзяўчаты некалькі разоў наладзілі ім канцэрт са свайго прад-

[працяг ☞ 3]

## Жніво і вясковыя турботы

— Цяпер у нашай вёсцы амаль самыя пенсіянеры. Толькі чатырох маладых гаспадароў, у якіх болей поля, — кажа Уладзімір Місяюк са Старога Корніна. — Слабы прыбытак зараз, бо яго палову ад жыта трэба аддаць за камбайн.

[болей ☞ 3]

## Горцы

У татранскіх вёсках кожны „баца" — амаль прадпрымальнік. Прапануюць яны там усялякай „навалачы" не толькі харчаванне і начлег, але таксама конную прагулку па найбліжэйшай ваколіцы. Не трэба прытым доўга шукаць такіх паслуг: мясцовыя прапануюць іх на кожным кроку.

[шырэй ☞ 4]

## Беларусы пад Грунвальдам

Беларускі рыцарскі клуб быў запрошаны грамадскімі ўстановамі Польскай Рэспублікі на святкаванне з нагоды бітвы пад Грунвальдам. З-за фінансавых цяжкасцей у Польшчу змагло паехаць толькі пяць прадстаўнікоў рыцарскіх клубаў.

[доціс ☞ 5]

## Нарваўскі Узнясенскі манастыр

Хаця афіцыйных дакументаў няма, заснаванне Нарваўскага манастыра можна аднесці да зямельных надзелаў, дадзеных манастыру ўладальнікамі гэтых маёмасцей у 1525, 1529 і 1574 гадах. У 1525 годзе ваявода віленскі Альбрэхт Гаштольд пасведчыў, што Аляксандр Хадкевіч уступіў мястэчку Нарве сваю зямлю. Згаданыя грунты былі размешчаны на правым беразе Нарвы.

[нарыс ☞ 9]

## У пушчу на адпачынак!

Адзіным ратункам у цяжкіх хвілінах была для мяне пушча — наша знакамітая Белавежская пушча. Толькі яшчэ там мог я адпачыць і набрацца сіл па-сапраўднаму. Хаця, на жаль, і туды нахабна пачала прарывацца наша „цывілізацыя".

[успамін ☞ 10]

## Конкурс „Нівы" завершаны

[спіс пераможцаў ☞ 11]

# Беларусь — беларусы

## Апошні шанц нацыі ці яе самазабойства?

Прайшло чатыры гады праўлення рэжыму Лукашэнкі на Беларусі. Час цалкам дастатковы для зусім аб'ектыўнай і ўпэўненай канстатацыі, што большасць нашага народа ў 1994 годзе пры выбары прэзідэнта краіны, на вялікі жаль, усё ж яўна памылілася.

Яго абяцанні народу аказаліся папулісцкімі, пустымі ці, прасцей, нічым іншым, як самым звычайным ашуканствам.

З так званага аб'яднання з Расіяй, як і трэба было чакаць, атрымаўся лагічны гістарычны пшык: жабракі ж, здаецца, ніколі не аб'ядноўваюцца, а з працягнутымі рукамі ды торбамі за плячыма звычайна шыбуюць у процілеглых накірунках.

Людскія надзеі на паляпшэнне жыццёвага ўзроўню лопнулі, бы той мыльны пузыр альбо бурбалка. Кіруючая вярхушка на чале з прэзідэнтам да гэтага часу ўсё яшчэ ніяк не можа ўцяміць банальнай, агульнавядомай праўды, выказанай у выслоўі: „Без шырокага права прыватнай уласнасці ў дзяржаве не быць ні парадку, ні яснасці".

Без прыватызацыі, без прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасці і сферу паслуг, без прыватнай уласнасці на зямлю (разумеецца, у пэўных, разумных памерах, скажам, да 10 га), без замежных інвестыцый ніякія рынкавыя рэформы на Беларусі проста немагчымы.

Чалавек жа на гэтым свеце без прыватнай уласнасці (як надзейнага гаранта яго дастойнага чалавечага жыцця, а не існавання) — гэта ўсё роўна, што птушка без крылаў, ці рак без клюшняў, ці рыба без плаўнікоў, ці крот без лап.

Сканцэнтраваўшы ж амаль цалкам усё ў руках дзяржавы, наша цяперашняе кіраўніцтва з маланкавай хуткасцю набліжае немінучы фінансава-эканамічны крах краіны.

І толькі адна мара прэзідэнцкага электарату ўсё ж збылася (што праўда, то праўда): на нашу агульную ўсенародную бяду нажылі мы сабе не драўляную, не жалезную альбо стальную, а самую звычайную шурпатую, шорсткую чалавечую руку, але... з гумавай дубінкай.

У краіне ўсталяваўся сапраўдны таталітарны рэжым: падаўляецца свабода слова і іншадумства, пастаянна парушаюцца правы чалавека, топчацца чалавечая годнасць, дашчэнту нішчыцца ўсё нацыянальнае, беларускае (і мова, і культура, і асвета, і гісторыя), творыцца нябачнае беззаконне ў адносінах да апазіцыі.

Пасля вядомага скандалу з замежнымі пасламі наша краіна цалкам апынулася ў міжнароднай ізаляцыі ды стала белай варонай, сапраўдным бяльмом цывілізаванай Еўропы.

Вось коратка тыя „поспехі", якіх дасягнуў спадар Лукашэнка за прайшоўшы перыяд яго прэзідэнцтва.

Такім чынам застаецца яшчэ год да выбараў новага прэзідэнта (вядома ж, па легітымнай Канстытуцыі 1994 года). За гэты параўнальна невялікі тэрмін усім нам, беларусам, неабходна ўсебакова і глыбока яшчэ і яшчэ раз сур'ёзна прааналізаваць і крытычна асэнсаваць усё тое, што адбылося за гэтыя марна і бяссэнсава пражытыя цяжкія гады, ды зрабіць для сябе на будучае адпаведныя высновы.

Паколькі згубнасць палітычнага рэжыму і эканамічнага курсу Лукашэнкі на Беларусі больш чым відавочная, то, каб пазбавіцца цяперашняга анкалагічна небяспечнага прэзідэнцкага жаўляка (гуза) на целе Беларусі, усе апазіцыйныя рэжыму сілы павінны тэрмінова кансалідавацца вакол самай моцнай, жыццяздольнай, уплывовай і арганізаванай на сённяшні дзень грамадска-палітычнай структуры — Беларускага народнага фронту.

Абавязковая платформа, стрыжань кансалідацыі — гэта Дзяржаўнасць і Незалежнасць Беларусі, вяртанне яе на дэмакратычны, цывілізаваны шлях далейшага развіцця (адраджэнне нацыянальнай мовы, культуры, асветы, гісторыі, вяртанне спрадвечных гістарычных нацыянальных сімвалаў і г.д.).

Зараз ідзе шмат спрэчак і гаворкі аб вылучэнні ад кансалідаваных дэмакратычных, апазіцыйных рэжыму сіл адзінага кандыдата ў прэзідэнты краіны на наступны і, магчыма, апошні тэрмін.

Бясспрэчна, дастойных прэтэндэнтаў на высокі прэзідэнцкі пост сярод сапраўдных патрыётаў Айчыны ў нас нямала. Аднак, каб адкруціць назад кола навейшай беларускай гісторыі на зыходную, стартавую пазіцыю ды затым надаць яму належны, цывілізаваны, дэмакратычны ход развіцця, на чале дзяржавы павінна стаць неардынарная, мужная, мудрая, валявая і рашучая, з высакароднай Божай харызмай асоба (як, прыкладова, Гавель у Чэхіі ці Адамкус у Літве). У цяперашніх складаных гістарычных варунках, па маім цвёрдым перакананні і інтуіцыі, такою асобаю можа быць менавіта Зянон Станіслававіч Пазьняк.

Набліжаецца лёсавызначальны час Беларусі, беларускай нацыі: альбо яна скарыстае свой апошні шанц для свайго адраджэння і станаўлення, альбо стане... (страшна казаць) самазабойцам і назаўсёды ўпішацца ў „Кнігу Гінеса", як першая і адзіная нацыя-самазабойца на нашай планеце Зямля. Іншых альтэрнатыў няма.

Аднак, ёсць яшчэ ў нас людзі добрыя, час канчаткова вызначыцца, з кім мы: з Богам ці па-ранейшаму застаемся (у большасці сваёй) вернымі слугамі, рабамі праклятага д'ябла.

Вельмі хацелася б, каб тыя, хто сапраўды верыць у Бога, ніколі не забывалі і заўсёды памяталі, што ў нашай галоўнай надзённай малітве „Ойча наш" ёсць такія словы, а менавіта: „не ўвядзі нас у спакусу ды збаві нас ад лукавага".

Такім чынам, штодзённа просячы ў Бога збаўлення ад лукавага, самім нам, па сваёй жа волі пагубна, нягожа, не да твару дапушчаць яго (гэтага самага лукавага) нават блізка да ўлады над сабой. Інакш гэта малітва губляе свой глыбінны, сутнасны сэнс і становіцца фармальнай, крывадушнай і зусім бескарыснай.

Усё будзе залежаць ад людзей, ад іх сумлення, розуму, мудрасці, веры ды волі!

**Алесь Ляскоўскі,**
**в. Сугакі (Беларусь)**

# Еўрапейская пілігрымка

**(нататкі аб святкаванні 80-х угодкаў БНР у беларускім замежжы)**

*(працяг; пачатак у 29 н-ры)*

**У Штутгарце**

Перасяклі шырокі спакойны Рэйн, і мы ўжо ў Нямеччыне. Ізноў ніякага пагранічнага кантролю, мяняецца толькі мова прыдарожных надпісаў. Іншымі сталі і краявіды.

Па дарозе ў Лондан мы праехалі па паўночнай частцы Германіі — усходняй і заходняй. Цяпер надарылася магчымасць пабачыць найбольш заможную частку гэтай багатай краіны — землі Бадэн-Вюртэмберг і Баварыю. Яны выразна адрозніваюцца ад іншых рэгіёнаў упарадкаванасцю, дабрабытам і добра наладжаным жыццём ва ўсіх адносінах. Славуты нямецкі парадак тут прадстаўлены класічна.

Менавіта ў гэтым раёне Заходняй Германіі знаходзіліся лагеры дэпартаваных асобаў, дзе жылі беларусы — Рэгенсбург, Бакнанг. У Рэгенсбургу працавала знакамітая Беларуская гімназія імя Янкі Купалы. У горадзе Штутгарце, адміністрацыйным цэнтры зямлі Бадэн-Вюртэмберг, прыпыніліся на начлег. Гэта прыгожы, вялікі горад, прыкладна 1 млн. насельніцтва. І тут ёсць беларускі куточак. Раней мала каму ў Беларусі было вядома, што тут, у Штутгарце, жыла сям'я Касмовічаў. Імя вядомага дзеяча БЦР Дзмітрыя Касмовіча было забаронена ў нас нават прыпамінаць. Як гісторык, я добра ведала пра дзейнасць Дз. Касмовіча ў ваенны час і мне хацелася неяк дазнацца, што сталася з гэтым чалавекам далей, як склалася яго пасляваеннае жыццё. І вось праз колькі гадоў мне давялося апынуцца ў далёкім Штутгарце і задаволіць сваю цікавасць. Раней і марыць пра гэта я не магла. Гаспадыня беларускай кватэры ў Штутгарце сп. Надзея Касмовіч сустрэла нас надзвычай гасцінна. Яе чатырохпакаёвая кватэра адразу ператварылася ў шумлівую гасцёўню. Знаёміліся, доўга засядзеліся за вялікім сталом, устаўленым рознымі прысмакамі, якія былі прыемнай нечаканасцю ў нашым амаль турыстычным побыце. Сп. Надзея — прыгожая жанчына, пабеларуску адкрытая і шчырая. Спрабую прыгледзецца, ці падобная яна з Марыяю Міцкевіч, унучкаю Якуба Коласа, што завітала сюды ўжо другі раз. Менавіта, сп. Марыя і прывезла нас у госці да сваёй цёткі. Сп. Надзея — дачка знакамітага дзядзькі Юзіка, роднага брата паэта. Так вось і Коласаву радню раскідала па свеце — у Нямеччыне, у Амерыцы. Сп. Надзея не была ў Беларусі пасля вайны, марыць пабачыць родныя краявіды ў Мікалаеўшчыне, але засцерагаецца ехаць цяпер на Радзіму, бо мае горкі вопыт розных праследаў.

Кватэра сп. Касмовічаў была адным з нямногіх беларускіх астраўкоў у Нямеччыне, якія захаваліся пасля вайны. Тут і перахоўвалася беларускае жыццё. Сп. Дзмітры і сп. Надзея рабілі што маглі, каб пра Беларусь не забывалі ў свеце. У 1991 годзе спадара Дзмітрыя не стала. Разам са сп. Надзеяю мы наведалі могілкі, дзе ён пахаваны. На яго магілцы цвітуць бел-чырвона-белыя кветкі. Навокал спакой, але чужая зямля.

За два дні побыту ў Штутгарце многа цікавага даведаліся ад сп. Надзеі пра беларускія справы ваеннага і пасляваеннага часоў. Яна — жывая сведка многіх падзеяў. Хацелася як мага больш занатаваць, але часу для карпатлівай працы было нямнога. Хочацца верыць, што будзе яшчэ калі магчымасць пазнаёміцца і з архівам сям'і, дзе ёсць многа важнага для гісторыі. Вядома ж, і тут было цяжка развітацца з нашай гаспадыняю, адданай патрыёткай. Нячаста ў гэтых мясцінах бываюць госці з Беларусі. І мы былі радыя знаёмству і гэтаму адкрыццю новага для нас асяродка ў Германіі. Дай, Божа, каб надалей ён трымаўся тут сіламі сп. Надзеі. На развітанне пажадалі ёй, найперш, добрага здароўя.

***(працяг будзе)***

**Ганна Сурмач**

# Сімвал свабоды

Літаратурны музей Варшавы прывёз на „Славянскі базар у Віцебску" цудоўную фотавыставу „Адам Міцкевіч". Прэзентацыя яе адбылася ў Віцебскім мастацкім музеі. Па ацэнцы мастацтвазнаўцаў, такой грунтоўнай і сучаснай выставы аб лёсе паэта ў нас не было.

— 200-ыя ўгодкі Адама Міцкевіча адзначае ўвесь свет. Дата яго нараджэння ўнесена ЮНЕСКА ў спіс дат міжнароднага значэння, — сказала аўтар выставы віцэ-дырэктар Літаратурнага музея Варшавы Эльжбета Банка-Сітэк. — На творчасці Міцкевіча выхоўвалася не адно пакаленне палякаў. Для нас ён — сімвал свабоды. Паэзія Міцкевіча яднае нашы народы, прымушае сучаснікаў задумацца аб лёсах нашых краін...

Трыццаць два планшэты, выкананыя ў камп'ютэрнай тэхніцы, распавядаюць аб багатай біяграфіі народнага песняра. У сярэдзіне жніўня гэтая выстава паедзе ў Мінск, а потым на радзіму Міцкевіча — Навагрудчыну.

**Святлана Гук**

*„Літаратура і мастацтва" № 31, 31.07.1998 г.*

# З настаўнікамі разлічыліся. Прынамсі за чэрвень

Сітуацыя з запазычанасцю па выплаце настаўніцкіх заробкаў часова нармалізавалася. Як паведаміла карэспандэнту „Звязды" загадчык аддзела абароны эканамічных інтарэсаў прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Валянціна Гнэздзілава, па стану на 28 ліпеня даўгі па заработнай плаце педагогам выплачаны.

Самая трывожная сітуацыя была апошнім часам на Магілёўшчыне (запазычанасць яшчэ нядаўна тут складала 25 мільярдаў рублёў), аднак, дзякуючы накіраваным у рэгіён мэтавым крэдытам са сродкаў рэспубліканскага бюджэту, усе грошы былі выплачаны.

Гродзеншчына разлічылася з настаўнікамі за кошт уласных рэзерваў.

**Мікалай Літвінаў**

*„Звязда" № 155, 8.08.1998 г.*

# Новая кацельня

**У Жыллёвым кааператыве ў Нараўцы будуецца новая маславая кацельня. Пра яе генезіс расказвае старшыня Кааператыва Галіна ЛЕЎША.**

Наш пастаўшчык цяпла, Кааператыў сельскагаспадарчых і прамысловых паслуг (SURiP) у Нараўцы, прадаваў свой тавар па даволі высокіх цэнах, якія раслі скорымі тэмпамі. Гэта давала нам стымул для роздумаў пра вызваленне ад цэнавага дыктату. Пэўны шанс давала нам яшчэ і тое, што пашыраліся межы Белавежскага нацыянальнага парку. І вось патрабаванні аховы пушчанскага асяроддзя і рост коштаў ацяплення далі нам штуршок для выступлення на агульным сходзе жыльцоў у чэрвені 1997 г. з прапановай будовы ўласнай кацельні. Была тады прынята прапанова пра хадайнічанне ў напрамку атрымання крэдыту з Фонду аховы асяроддзя; гэтая ўстанова крэдытавання была выбрана таму, што давала шанс пагашэння 50% яго велічыні, але пры ўмове, што задача будзе выканана тэрмінова і згодна з патрабаваннямі аховы асяроддзя, а да таго ж будзе дасягнуты экалагічны эфект. Восенню 1997 г. падалі мы ў гэтай справе заяву ў Ваяводскі фонд аховы асяроддзя і вадзяной гаспадаркі ў Беластоку.

З 1 студзеня г.г. у краіне былі вызвалены цэны на тэрмаэнергію. Раней карысталіся мы дзяржаўнаю датацыяй і жыльцы плацілі толькі стандартную цану за ацяпленне. Цяпер жа жыльцы вымушаны плаціць паводле некампенсаваных дзяржавай цэн. І так члены нашага кааператыва ў 1997 годзе плацілі па 2,13 злотаў у месяц за ацяпленне аднаго квадратнага метра займаемай плошчы, а ўжо з Новым годам цана гэтая паднялася да 3,50 злота! Гэта была трэцяя па велічыні цана ў ваяводстве; дзве „першыя" цаны аспрэчыла Управа казначэйскага кантролю і такім чынам прад'яўляемая нам цана заняла самую верхнюю ступеньку ў ваяводстве. 11 студзеня адбыўся ў нас нечарговы агульны сход, на якім жыльцы прынялі рашэнне пра адыход ад пастаўшчыка тэрмаэнергіі і будову ўласнай кацельні. Члены кааператыва забавязаліся ўнесці ад кожнай кватэры складчыны па 100 злотаў на апрацоўку дакументацыі і па 1400 злотаў на будову з тым разлікам, што гэтыя расходы вернуцца ў зэканомленых коштах. SURiP яшчэ ўнушаў нам, каб мы купілі і паставілі ў іх печы на пілавінне і тады кошт цяпла будзе меншы; яны нават сталі паліць пілавіннем у сваіх вугальных печах і тады тэмпература ў кватэрах апала да 12°C, а мы ўжо сядзелі ціха, каб яшчэ не паднялі цаны.

Апрацоўку дакументацыі даручылі мы беластоцкай фірме „Ciepłoprojekt" і яна выканала яе ў сакавіку, а неўзабаве было вынесена рашэнне Ваяводскага фонду аховы асяроддзя і выдзяной гаспадаркі пра назначэнне нам крэдыту, зацверджанае пасля двух тыдняў ваяводам. У маі аб'явілі мы таргі на выкананне будаўнічых прац і ацяпляльнай установкі. Будаўнічыя працы пачаліся 22 чэрвеня і цяпер ужо кладуцца пліткі. Пастаўлены ўжо таксама печы і падключаны цеплаправоды. На канец жніўня прадбачаны пробны пуск печаў, а ўвесь кацельны комплекс мае быць гатовы да працы ў палове верасня, каб на выпадак халадоў можна было абаграваць нашы кватэры. Цяпер вядзем перагаворы з пастаўшчыкамі паліва і разглядаем іх прапановы. Да пачатку ацяпляльнага сезона, як толькі паставяць рэзервуары, хочам заправіць іх палівам. Устанаўліваем таксама свой агульны лічыльнік тэрмаэнергіі, каб сачыць за расходаваннем цяпла.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Жніво і вясковыя турботы

**Плён сёлета горшы, чым у мінулых гадах. Ярыну хваробы атакавалі, а ў жыце і зерне малое і колас пуставаты. Лепшая крыху азімая пшаніца, — кажа Ніна Аксянцюк са Старога Корніна. — Чакаем добрага надвор'я, дык неяк будзе.**

У Старым Корніне, як і многіх іншых вёсках Гайнаўшчыны ніхто ўжо не жне ні касілкай, ні снапавязалкай.

— Я яшчэ ўвогуле не жаў, але збожжа не так і многа. Усё сабе пакідаю, для свіней і кароў, — гаворыць Уладзімір Місяюк, таксама са Старога Корніна. — Каб толькі пагода была, то выжнем, бо ў вёсцы тры прыватныя камбайны, а ў калгасе таксама тры, дык памагаюць. Хаця бывае і так, што нашы камбайны едуць у іншыя вёскі, туды, дзе праца ёсць. Некаторыя яшчэ жнуць, бо прадаць могуць адразу, а зараз толькі жыта купляюць. Склады поўныя, дык і не купляюць, а ўсё пачалося ад 1995 года, калі распачаўся імпарт збожжа ў Польшчу. Цяпер гавораць, што стрымаюць прывоз з-за мяжы, але ці змогуць адразу, калі дазволы далі!

Хаця пахмурнае надвор'е, камбайны ў полі.

— Жалі мы ў суседа і сваякоў, дык жыта сапраўды слабое, — паясняе Ніна Аксянцюк, у якіх свой камбайн. — У сябе многа поля, дык па людзях не ходзім. Зараз 48 гектараў, на чым у галоўным пасеяна збожжа — пшаніца, жыта і збожжавая мешанка. Праўду кажучы, дык мы адразу і не прадаем збожжа, бо маем дзе сыпаць. Калі муж працуе на камбайне, дык я з дзяцьмі — Евай (вучаніца Гайнаўскага белліцэя), Пятром і Марылькай возім збожжа з поля. У нас тры трактары, дык можна справіцца і хутка пачынаць салому вазіць. Толькі пасля заканчэння жніваў возім збожжа на продаж. Многія прадаюць адразу з поля і зараз цяжка ім вырашыць, што рабіць. Пакуль што купляюць толькі жыта і плацяць недзе пад трыста злотых за тону, у Новаберазове і Паканеве, што ажно за Мілейчычамі. У іншых месцах не купляюць нічога і трэба чакаць.

Старое Корніна, вёска прыгожая, дагледжаныя дамы і панадворкі, асфальтаваная дарога.

— Цяпер у нашай вёсцы амаль адны пенсіянеры. Толькі чатырох маладых гаспадароў, у якіх болей поля, — кажа Уладзімір Місяюк. — Слабы прыбытак зараз, калі, напрыклад, у гэтым годзе палову прыбытку ад жыта трэба аддаць за камбайн, які прыедзе і выжне. Прыбытак ад гадоўлі таксама слабы, але ж трэба працаваць.

— Апрача збожжа яшчэ гадоўляй займаемся. Зараз 11 кароў, свая ўмяшчальня на малако, ну і трэба будзе перабудоўваць кароўнік, каб прыспасобіць да еўрапейскіх нормаў. У мінулых гадах дык і па 20 свіней гадавалі, бо прыбытак ад збожжа невялікі. Некаторыя ўгнаенні, напрыклад фасфаран, у два разы падаражэлі ад 1995 года, машыны і бензін таксама, а збожжа найтаннейшым стала. Калі ў 1995 годзе пшаніца была па 640 зл. за тону, то цяпер 470 зл., — расказвае спадарыня Аксянцюк. — Але каля кароў таксама трэба хадзіць. Апрача таго, каб малако было халоднае і вельмі чыстае, яшчэ спраўджаюць на саматычныя клеткі. Кожны раз пасля даення праводжу дэзінфекцыю, дык пакуль што малако класа *экстра*. Але і за такое малако плацяць толькі пад 80 грошаў за літр. У нас ужо і бульба маладая ёсць, але няма куды прадаць, а ў Беласток ездзіць на рынак не будзеш жа. Хаця жыццё на вёсцы цяжкае, мы любім і будзем гаспадарыць.

**Аляксей Мароз**

# Пасол Курань спадабаў „Чарамшыну"

**2 жніўня, на Ілью, у Чаромсе адбыўся фэст, які арганізавалі Гмінны асяродак культуры супольна з Галоўным праўленнем БГКТ. Мерапрыемства ўдастоілі старшыня сеймавай Камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей Яцэк Курань і дыпламаты Консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку: консул Мікалай Крэчка і віцэ-консул Павел Латушка.**

Калі я прыйшоў на фэст, на пляцоўцы выступала ўжо мясцовая „Чарамшына", а мнагалюдная публіка шчыльна запаўняла месцы для гледачоў. Такога ў Чаромсе я яшчэ не бачыў. Некалькі дзесяткаў гледачоў спынілася на тратуарах, за платом. Купцы прадавалі цукровую вату. За столікамі побач сцэны сядзелі члены нейкага калектыву, сярод якіх заўважыў я вядучую канцэрт сакратар ГП БГКТ Валянціну Ласкевіч і старшыню Яна Сычэўскага. У тым месцы прадаваліся магнітафонныя касеты беларускіх калектываў. Маладыя людзі куплялі іх. У першых радах аўдыторыі, сярод жыхароў Чаромхі, убачыў я пасла Яцка Кураня. Выглядаў як у тэлебачанні: звычайны, прастадушны, з усмешкай на твары. І бачу, як да яго падыходзіць знаёмы пенсіянер-чыгуначнік, вітаецца...

„Чарамшына" заканчвае сваё выступленне, сыходзіць са сцэны. Вядучая Валянціна Ласкевіч перад выкліканнем на эстраду дуэта „Капры" з Беластока гаворыць: „Сардэчна вітаю паважанага госця, пасла Яцка Кураня, які наведаў Чаромху і прысутнічае на нашым фэсце з жонкаю і сынам". За момант спадар міністр выказвае цёплыя ветлівыя словы ў адрас калектыву „Чарамшына" і жыхароў пасёлка, якія падтрымліваюць мясцовую культуру. Пасля толькі я даведаўся, што міністр прыехаў па запрашэнні калектыву „Чарамшына".

За калектывам „Капры" выступілі жанчыны з Вулькі-Тэрахоўскай, якія згуртаваліся ў калектыве пад назвай „Вульчанкі". Яны сапраўдныя сейбіты народнай песні. Без акампаніятара і дырыжора, без лішніх просьбаў дырэктара ГОКу з'яўляюцца на кожным мерапрыемстве і заваёўваюць аўдыторыю прыгожымі песнямі і галасамі.

Затым выступілі „Чыжавяне", чаромхаўская эстрадная група „Eljot", „Прымакі" з Беластока і калектыў „Гарадніца" з Гародні, які прыехаў па запрашэнні Галоўнага праўлення БГКТ, каб выступіць у Кляшчэлях і Чаромсе.

Мастацкая частка працягвалася да восьмай вечара. Канцэрт спадабаўся прысутным, аб чым сведчылі бурныя воплескі.

На другі дзень я паспрабаваў пагаварыць з некаторымі чаромхаўскімі дзеячамі наконт фэсту.

— Чарамшукі замнога маюць беларускіх фэстаў, — гавораць вядомая асабістасць з „Чарамшыны". — Яны становяцца ўжо нуднымі.

— Замнога на такім фэсце хвальбы, — гаворыць гмінны чыноўнік, які наконт прыезду Яцка Кураня ў Чаромху сказаў наступнае: — Шкада, што адказныя за культуру дзеячы аднесліся да візіту старшыні сеймавай Камісіі нацыянальных і этнічных і меншасцей як да звычайнай сяброўскай сустрэчы. А можна было б такі візіт выкарыстаць для дабра ўсяго грамадства і развіцця гміны. Другой такой нагоды пэўна не будзе.

Пасол Яцэк Курань спадабаў „Чарамшыну" і гэтым трэба толькі цешыцца. Аднак адказныя за гмінную культуру чыноўнікі і заадно члены калектыву „Чарамшына" не павінны візіт высокага госця лічыць іх прыватнай справай, а толькі выкарыстаць яго для агульнейшых мэтаў.

**Уладзімір Сідарук**

# У пошуках голасу душы народа

[1 ☞ працяг]

вы, Яўген Яфрэмаў з тэатральна-музычнай групай „Дэрэво" з Кіева (вельмі моцная, так сказаць, ударная рэпрэзентацыя, здаецца, спецыяльная на Беласточчыну — М. Л.), тэарэтыкі і практыкі, бо адразу пасля дакладаў вяліся варштаты, практычныя заняткі, на канкрэтным матэрыяле з кожнае краіны. Апошняя частка — зусім эксперыментальная для маладых людзей — забіралі мы іх на даследаванні па навакольных мясцовасцях. Там моладзь распытвала пра музыку, якую спяваюць людзі, пра манеру спеву, слухала, спявала.

— Я цікаўлюся не толькі беларусамі, якія жывуць у адміністрацыйных межах Беларусі, — расказвала Г. Таўлай, — але тым, як гэтая культура сутыкаецца з культурай іхніх суседзяў — украінцаў, літоўцаў, латышоў, палякаў. Па Беласточчыне вандравала я разам са Сцяпанам Копам, добра папенетравалі Міхалоўскую гміну, былі ў Кляшчэлеўскай, Нараўчанскай, Чыжоўскай... Моцна зацікаўлены ў маіх вандроўках Ян Тапалянскі з Нарваўскай гміны, хоча дапамагчы мне, павазіць па вёсках, паказаць, што цікавага і каштоўнага і ў ягонай гміне.

Пачалося ўсё семінарам пра старажытныя літоўскія песні. Пасля былі польскія, татарскія, украінскія, беларускія. Вячаслаў Шчураў прадставіў, напрыклад, паўднёвярускія і сібірскія напевы, прывёз цікавыя дакументальныя фільмы, м.інш. пра народную рэлігійную песню ў Сібіры (некаторыя песні вядомыя нам, прывезеныя з бежанства, як напрыклад „Госпади, помилуй, Господи, прости").

— Гэтыя ўсе веды і ўмеласці (напрыклад практыкаванні дыхання і маўлення такога, каб спеў „нават пад лесам ці другой вёскай чулі") вельмі прыдатныя для тых маладых людзей, якія цікавяцца гісторыяй і мінуўшчынай, — лічаць навукоўцы і моладзь. А архівы „Музыкі Крэсаў" напоўніліся новымі здабыткамі. Са збораў Галіны Таўлай, якія будуць яшчэ папаўняцца, могуць ужо пакарыстацца сябры Сустрэчаў „Зоркі", бо і Гандзя Кандрацюк — мастачка ў старажытных спевах і заўзятая збіральніца аўтэнтычнага фальклору, і ў час рэйдаў Зорчыны сябры сабралі ўжо шмат песняў, якіх яшчэ і не чула Галіна Таўлай. Добра было б наладзіць самастойны практычна-навуковы семінар з нашай тутака песні.

**Міра Лукша**

# Уся сям'я жыве прадшколлем

[1 ☞ працяг]

школьнага рэпертуару. І што прыемна адзначыць, людзі з Варшавы былі захоплены іх натуральнай двухмоўнасцю, ахвотай выступаць перад іншымі, багатым рэпертуарам.

***— Нашы людзі баяцца беларускасці. Гавораць, што пашкодзіць яна іхнім дзецям у жыцці?***

— Ёсць якраз наадварот. Але сваё цяжка адстойваць.

***— Колькі твайго прыватнага часу забірае прадшколле?***

— Мабыць і замнога. Але пра гэта найлепш расказаў бы мой муж Міраслаў. Проста, уся наша сям'я жыве прадшколлем.

**Гутарыла Ганна Кандрацюк**

# Горцы

**Школьныя падручнікі па гісторыі і літаратуры шмат месца прысвячалі калісь праблемам беднасці галіцыйскага люду, класавай барацьбе горцаў за сацыяльнае вызваленне. Сёння, калі пабачыш узровень жыцця татранскіх гураляў, спачатку хочаш спытаць, адкуль у іх такая заможнасць, але пасля кароткай размовы з імі пераконваешся, што маеш дачыненне з духоўнымі спадчыннікамі ўсялякіх Яносікаў. І хочацца тады проста сказаць: бедная была тутэйшая шляхта.**

Праўдападобна прэзідэнт Аляксандр Квасьнеўскі меў павышаную тэмпературу, ці не адчуваў сябе добра, калі запрапанаваў, каб Закапанэ было месцам зімовых алімпійскіх гульняў у 2006 годзе. А можа толькі вельмі хутка праехаў службовым лімузінам вуліцамі гэтага мястэчка і не паспеў заўважыць, што няма там ні вакзала, ні тэлефонаў-аўтаматаў, ні падмецены тратуараў. Значыць, таксафоны ёсць, можа нават больш за дваццаць ва ўсім горадзе, але працуюць толькі тры-чатыры. Каля тэлефонных будак стаяць вялікія чэргі турыстаў, якія хацелі б кагосьці там паінфармаваць, што добра ім адпачываецца. Ёсць таксама ў Закапанэ будынак вакзала, дзе знаходзіцца шэсць кас продажу білетаў на чыгуначны транспарт, але пастаянна працуе толькі адна. Той, хто хоча пакінуць „зімовую сталіцу Польшчы”, вымушаны пастаяць дзве гадзіны за білетам.

У Закапанэ і ваколіцы няма затое месца, дзе можна было б затрымаць аўтамабіль і не плаціць падатак за стаянку. Некалькі разоў прыйшлося бачыць, як некаторыя наведвальнікі Татранскага нацыянальнага парку з Варшавы, Кракава, Гданьска прабавалі ставіць свае машыны на польных дарожках, дзе навокал не было нічога апрача някошаных некалькі гадоў лугоў. Неадкладна побач машыны з'яўляўся на веласіпедзе нейкі „баца” і ветліва прапанаваў пакінуць машыну на яго зямлі, там дзе акурат стаяла, толькі за адну залатоўку за гадзіну стаянкі. Калі б такая прастора была ўласнасцю горада, уласнік аўтамабіля мог бы нават атрымаць квітанцыю, пасведчанне, што затрымаўся ў гэтым месцы цалкам легальна. У суседстве Татранскага нацыянальнага парку мясцовыя жыхары ад самай раніцы прапануюць свае панадворкі ў якасці стаянкі для матарызаваных гасцей, якія прыехалі захапляцца горскімі краявідамі. Цана ўва ўсіх аднолькавая — адна залатоўка за гадзіну. Цясней тут, аднак, бывае, чым у Беластоку на вуліцы Суражскай.

Кожны дом, які з'яўляецца ўласнасцю „мясцовых”, гэта таксама патэнцыяльная крама, рэстаран і гатэль. Калі нехта не мае вялікіх гігіенічных патрабаванняў, можа знайсці ложак ужо за 15 злотых у суткі. Вада ў гарах чыстая, аднак халодная і можа таму горцы не любяць кантакту з ёю. Цяжка такі падыход адобрыць мяшчанам, якія паўсюдна наракаюць на гігіенічныя ўмовы, прапанаваныя туземцамі. Нашых беларускіх сялян з Беласточчыны горцы назвалі б панамі за іх дбайнасць пра чысціню сваіх дамоў, вопраткі і цела.

У татранскіх вёсках кожны „баца” — амаль прадпрымальнік. Прапануюць яны там усялякай „навалачы” не толькі харчаванне і начлег, але таксама конную прагулку па найбліжэйшай ваколіцы. Не трэба прытым доўга шукаць такіх паслуг: мясцовыя прапануюць іх на кожным кроку. У вёсках амаль не відаць старых дамоў. Новыя будуюцца з каменя — першы паверх, і дрэва — другі. Раней крыніцай заможнасці была паездка ў Амерыку, цяпер усе згодна заяўляюць, што хутчэй зарабляецца грошы ў сябе дома.

Паміж Беластокам і Бабpоўнікамі штодзённа праплываюць тысячы грузавых машын. Шафёры з цэлай Еўропы часам доўга чакаюць за Гарадком дазволу на праезд на другі бок мяжы. Гэта наогул супрацоўнікі багатых фірмаў, але грошы могуць выдаваць толькі на прастытутак, якія, дарэчы, прыязджаюць сюды з глыбіні Польшчы, Балгарыі, Украіны ці Літвы. Думалася мне, што зрабілі б горцы, калі б прыйшлося ім жыць у Гарадоцкай гміне. Праўдападобна, уздоўж дарогі паставілі б сотні крамак, рэстаранчыкаў, бараў, гатэляў і нават тым жа прастытуткам стварылі б больш цывілізаваныя ўмовы працы. На беларускім баку мяжы яшчэ доўгімі гадамі ніхто пра гэта нават не падумае.

Назіраючы гаспадарчую актыўнасць гураляў, можна найлепш пераканацца, што грошы маюць толькі тыя, якія іх хочуць мець. Славутая рэлігійнасць гураляў і іх адданасць хрысціянскім вартасцям маюць выключна абрадавы характар. Большасць змест Евангелля ведае толькі з ксяндзоўскіх казанняў. У штодзённым жыцці кіруюцца яны жалезным прынцыпам: як найменш даць і як найбольш узяць. Калі толькі ёсць нагода кагосьці ашукаць, несумненна гэта зробяць! Але такі ёсць бізнес, такі цэх ўсходні капіталізм. Яны як бы разумеюць, што перамагае той, хто больш хітры, цынічны і менш зважае на этычны бок свае дзейнасці. У нас таксама выступае падобнае разуменне жыцця, але ўся наша актыўнасць абмінае галіну гаспадаркі.

У перапоўненым цягніку Закапанэ-Кракаў пераважную большасць складалі паломнікі ў Кальварыю-Зэбжыдоўскую, якія са сваімі святарамі ехалі на свята Успення Прасвятой Багародзіцы. Малады ксёндз сядзеў у купэ насупраць дзвюх парафіянак у спаднічках такіх кароценькіх, што і святому ў галаве магло б закружыцца. Гаварылі пра супольныя паломніцтвы, кляштары, якія наведвалі апошнім часам, аналізавалі змест перадач Радыё „Марыя”, аднак адчувалася нейкая не рэлігійная характару сувязь паміж гэтымі маладымі людзьмі. Святар стараўся глядзець толькі ў вочы сваім парафіянкам, але час ад часу яго зрок маланкава падаў трошку ніжэй. Усё такое нармальнае, чалавечае, здавалася б.

**Яўген Мірановіч**

# „Газета Слонімская” ў судзе

Невялікім астраўком незалежнай інфармацыі ў моры дзяржаўных СМІ ў Беларусі з'яўляюцца прыватныя газеты. Але іх лёс у гэтай краіне незайздросны. Дзяржаўная адміністрацыя намагаецца ўсялякімі спосабамі ўскладніць умовы існавання гэтага роду перыядычных выданняў і давесці да іх закрыцця. Прыкладам гэтаму можа быць лёс „Свабоды”, якая некалькі разоў падвяргалася судовым штрафаванням, каб у канцы быць закрытай на аснове судовага прыгавору. Такія газеты найчасцей не маюць магчымасці друкавацца ў сваім горадзе з-за адсутнасці „вытворчых магутнасцей” мясцовага паліграфічнага камбіната і вымушаны карыстацца паслугамі друкарань у іншых абласцях. Рэдактарам прыватных газет прыходзіцца моцна выкручвацца, каб забяспечыць рэгулярны выхад сваіх выданняў і іх распаўсюджванне.

28 ліпеня г.г. давялося мне пабываць у рэдакцыі „Газеты Слонімскай”. Першае ўражанне — цесната. Уся рэдакцыя змяшчаецца ў адным невялікім пакойчыку. У ім працуе і галоўны рэдактар, і наборшчыца, і вярстальшчык. Тут таксама журналісты збіраюць па тэлефоне інфармацыю пра апошнія здарэнні ў горадзе, сюды заходзяць наведвальнікі здаць рэкламныя аб'явы. У гэты дзень акурат закрываўся 31 нумар газеты, які трэба было 29 ліпеня завезці ў друкарню ў Баранавічы. А на другі дзень пад вечар хлапчукі прадавалі ўжо свежы нумар „Газеты Слонімскай” на вуліцах, разносілі яе па дамах.

У Слоніме выходзяць дзве газеты. Афіцыйная — „Слонімскі веснік”, заснаваны 26 верасня 1939 года, які выдаецца гарадскім і раённым выканкамам і выходзіць тры разы на тыдзень на чатырох старонках. У ім кідаецца ў вочы шмат афіцыйных паведамленняў адміністрацыйных раённых, абласных і рэспубліканскіх улад. У незалежнай „Газеце Слонімскай”, якая выходзіць з 1997 года раз у тыдзень на 12 старонках, пераважаюць журналісцкія тэксты, часта крытычныя ў адносінах да ўлад. Вулучаецца яна таксама аператыўнасцю і разнастайнасцю інфармацыі. Газета друкуе таксама гістарычныя артыкулы Сяргея Ёрша (публікаваўся ён і ў „Ніве”), прысвечаныя забытым асобам і падзеям ваеннага і пасляваеннага перыяду на Слонімшчыне. Абедзве газеты змяшчаюць таксама рэкламу і праграму тэлебачання.

У горадзе кажуць, што чыноўнікі чытанне „Газеты Слонімскай” пачынаюць з праверкі, ці няма ў ёй крытычных артыкулаў пра іх саміх. Пацiху цешацца, калі крытыкуецца суседняе прадпрыемства ці іншая ўстанова. Крытыкаваныя асобы рэагуюць вельмі востра. Вось нядаўна ў „Газеце Слонімскай” з'явіўся артыкул пра адзін са слабейшых калгасаў са здымкам шыкарнага дома, які будуе сабе старшыня гэтай гаспадаркі. Кіраўнік калгаса артыкул палічыў абразай яго як службовай асобы і падаў рэдакцыю ў суд. Ведаючы судовую практыку празмерных штрафаванняў, якая прымяняецца да незалежных выданняў, журналісты баяцца, што можа гэта прывесці іх рэдакцыю да фінансавых клопатаў. Не вераць яны ні ў аб'ектывізм мясцовага судовага апарату, ні ў незалежнасць слонімскіх адвакатаў. У выпадку працэсу будуць іх абараняць мінскія юрысты.

**Віталь Луба**

# Нашы карані

### CXXV. Працавіты трыумф

Папярэдне мы разважалі над тымі дзеяннямі, якія ўнутры уніяцкага касцёла ў Расейскай імперыі давялі да поўнага злучэння яго з праваслаўнай Царквой. Аднак славутыя словы „Дзякую Богу і прымаю”, пакладзеныя 25 сакавіка 1839 года рукою імператара Мікалая І на паведамленні аб уз'яднанні уніятаў з праваслаўнымі былі не канцом, а пачаткам тае вялікае працы, якую праваслаўнай Царкве неабходна было прарабіць, каб былыя уніяты не толькі ўліліся ў яе, але і сталі настолькі неад'емнай яе часткай, што ўжо праз некалькі дзесяткаў гадоў цяжка было пазнаць іх сярод праваслаўных, а праз сто гадоў нават памяць пра унію ў іх загінула.

Неабходна згодна з праўдай сцвердзіць, што гэтак сталася дзякуючы працы праваслаўнага духавенства. Перш за ўсё праваслаўнае духавенства, пачынаючы ад членаў Свяшчэннага Сінода і на парафіяльных свяшчэнніках у самых глухіх мясцінах канчаючы, праявіла ў працы з уніятамі незвычайную, падзвіжніцкую ахвярнасць і цярплівасць ва ўвядзенні іх у свет праваслаўнага духовага жыцця. Неабходна ж было ім растлумачыць сэнс і значэнне праваслаўных набажэнстваў і абрадаў, навучыць належна весці сябе падчас іх адпраўлення, вывучыць з прыхаджанамі праваслаўныя малітвы, а з харыстамі — царкоўныя спевы, прывучыць усіх да праваслаўных святаў і адпаведнага іх ушанавання. Але найважнейшае — гэта прывіць ім тую глыбокую духоўнасць, якая ўласціва праваслаўным людзям, каб яны ўнутрана глыбока адчувалі і знешне адважна сведчылі сваю прыналежнасць да праваслаўнай Царквы. На гэта сышлі не гады, а дзесяцігоддзі натужлівай цярплівай працы, бо працаўнікі праваслаўя таксама не драмалі і рабілі ўсё магчымае і немагчымае, каб перашкодзіць аб'яднанню уніятаў у адзінае цела з праваслаўнай Царквою.

Важна было таксама дапасаваць уніяцкія касцёлы да праваслаўных багаслужэнняў, а ў гэтай справе было не так і мала клопатаў, і работы. Трэба было ліквідаваць амбоны, бакавыя алтары, лаўкі, розныя лепленыя і рэзбленыя фігуры і мноства іншага, затое абсталяваць адзін алтар, іканастас і ўсяму храму надаць характар праваслаўнай царквы. У некаторых мясцовасцях і гэтыя працы ў выніку падбухторвання іншаслаўнага духавенства і асабліва былых базыльянаў сустракалі супраціў невялікіх груповак уніятаў. Такая групоўка пратэставала, напрыклад, падчас вынасу аргану са Свята-Благавешчанскай царквы ў Супраслі. Але такія здарэнні былі рэдкасцю.

Неабходна было на розных курсах перападрыхтаваць перайшоўшае ў праваслаўе уніяцкае духавенства, а з думкай пра будучыню — арганізаваць праваслаўныя семінарыі, заснаваць майстэрні іканапісу, забяспечыць усе свецкія школы настаўнікамі Закону Божага, а вучняў адпаведнымі дапаможнікамі. Трэба было сарганізаваць выдавецтвы праваслаўнай літургічнай і багаслоўскай літаратуры, рэдакцыі праваслаўных часопісаў і многае-многае іншае, каб праваслаўе трыумфавала і ў душах людзей, і ў знешнім выглядзе краіны.

**Мікола Гайдук**

# Маладыя навукоўцы — яднайцеся!

Алену Яскевіч, маладую працаўніцу навукі, аўтарку шасці навуковых кніг (м.інш. „Творы Ф. Скарыны. Жанравая структура. Філасофскія погляды. Мастацтва слова" і „Старабеларускія лексіконы") сустракаем на Савеце маладых вучоных Нацыянальнай акадэміі навук у Менску. У Акадэміі навук распачалася справа адраджэння навукі сярод маладых вучоных. Гэтая справа з часоў камсамола была закінута і з'яўляецца прычынай многіх праблем у развіцці акадэмічнай навукі, у імклівым старэнні кадраў. Гэта бачна ў тым, што для моладзі створаны неспрыяльныя ці маласпрыяльныя ўмовы і яна нейкім чынам адкінута ад акадэмічнага жыцця, не зацікаўлена ў працы ў акадэмічнай галіне. Таму назіраецца той разрыў пакаленняў у кадрах і ў выніку недзе праз дзесятак гадоў праблема кадраў і вядучых спецыялістаў ва ўсіх галінах фундаментальных даследаванняў паўстане вельмі востра.

— Звычайнае старэнне навукі назіраецца ў тым, што дзейнічаюць вучоныя сярэдняга веку, і такія ўжо вельмішаноўнага і паважнага, — тлумачыць Алена Яскевіч, адна з наймаладзейшых сярод усіх навукоўцаў Акадэміі. — У Акадэміі навук няма доктара навук да трыццаці гадоў і толькі два доктары навук да сарака гадоў, а да 50-ці гадоў гэта 20% навукоўцаў. Кандыдаты навук да 30 гадоў гэта 2% усяго складу, кандыдаты навук да 40 гадоў — 22%, а ў апошніх гадах (1997-98) ідзе тэндэнцыя скарачання — увогуле іх толькі 17%. І таму паўстала задача адраджэння Савета маладых вучоных, які б падтрымліваў і фінансава і ў нейкім сэнсе натхняў маладых вучоных на працу, служыў хутчэйшаму выданню іх прац, публікацыі іх даследаванняў, адным словам — спрыяў самаму шырокаму зацікаўленню іх рэалізацыі ў сферы акадэмічнай навукі і фундаментальных даследаванняў.

Пасяджэнне маладых навукоўцаў вялі Георгій Валатоўскі — віцэ-прэзідэнт Нацыянальнай Акадэміі навук і Аляксандр Данілаў — член-карэспандэнт, куратар навукі ў Адміністрацыі Прэзідэнта. Данілаў гаварыў пра тое, што толькі 3% аспірантаў абараняецца ў свой час, такім чынам змена старэйшаму пакаленню фактычна і не рыхтуецца. Успомнілі пра неабходнасць павышэння стыпендыяў аспірантам і дактарантам, бо на зарплату ў 2 мільёны, якую атрымліваюць у асноўным навуковыя супрацоўнікі, пражыць немагчыма. Паўстала пытанне знайсці тыя сродкі, каб забяспечыць годнае існаванне маладой беларускай навуцы і нейкі адпаведны жыццёвы ўзровень. Быў створаны арганізацыйны камітэт, да гэтага быў падключаны Фонд фундаментальных даследаванняў, звярнуліся да вопыту ранейшых дзеянняў саветаў маладых вучоных, каб актывізаваць стан маладой навукі. Таксама вырашана было для падтрымкі менавіта старэйшых навуковых супрацоўнікаў аднавіць дыплом старэйшага навуковага супрацоўніка і дацэнта, каб маладыя навуковыя супрацоўнікі, якія маюць навуковы стаж 5-7-10 гадоў маглі кіраваць аспірантамі, неяк уключаліся шырэй у адукацыйны выкладчыцкі працэс і потым ужо маглі самі падымацца вышэй, рыхтавацца да абароны доктарскай дысертацыі, атрымліваць званні прафесара.

— Нам, навукоўцам, асабліва маладым, залежыць на тым, каб існавала больш цесная сувязь паміж сістэмай адукацыі і акадэмічнай навукай і нарэшце акадэмічнай навуцы было аддадзена належнае, як галоўнаму багаццю Беларусі, — ад імя маладых навукоўцаў падсумавала Алена Яскевіч.

**Міра Лукша**

# Спаборніцтва і адпачынак

**Адпачываць каля вадасховішча „Бахматы", што непадалёк Дубіч-Царкоўных прыязджаюць дзеці, моладзь і дарослыя. 16 жніўня 1998 года адбыліся тут фінальныя спаборніцтвы па футболу і валейболу, арганізаваныя Гмінным асяродкам культуры ў Дубічах-Царкоўных.**

**Спорт**

Змаганні па футболу і валейболу за кубак войта гміны Дубічы-Царкоўныя, што адбываліся на пляжы каля вадасховішча, распачаліся ўжо 19 ліпеня. У змаганнях па валейболу прыняло ўдзел дзевятнаццаць двухасабовых каманд, хаця ў галоўным былі гэта каманды з Гайнаўшчыны, прыехалі і хлопцы з Беластока. Сярод мясцовых выступілі хлопцы з Дубіч-Царкоўных, Грабаўца і Вітава. Пасля месячных змаганняў па нядзелях да фіналу дайшло пяць камандаў — тры з Гайнаўкі, з Беластока і Тэрамісак. Аднак ужо на фінальныя змаганні прыехалі толькі дзве каманды і першага месца дабіліся падапечныя Рамана Данілюка і Юркі Янеля, а на другім апынуліся хлопцы Міраслава Куптэля і Тамаша Дынкоўскага, усе з Гайнаўкі.

У спаборніцтвах па футболу змагалася восем камандаў з пяці чалавек кожная: са Старога Беразова, Грабаўца, Старога Корніна, Вітава,Істока, Дабрывады, Гайнаўкі і Бельска-Падляшскага. Элімінацыйныя матчы праходзілі 19 і 26 ліпеня і да фіналу перайшлі чатыры каманды. На першым месцы апынуліся хлопцы са Старога Беразова, на другім з Вітава, а трэцяе месца заваявала каманда з Грабаўца.

— Паведамлялі мы хлопцаў з пасобных вёсак, якія ахвотны іграць у футбол ці валейбол, але інфармавалі мы і праз гміну, — кажа інструктар па справах культуры і спорту ў гмінным асяродку культуры ў Дубічах-Царкоўных, Лявон Мікуліч, які быў галоўным арганізатарам і кіраваў падрыхтоўкай да турніраў. — Калі было добрае надвор'е, дык і балельшчыкаў было многа, а футбольныя каманды арганізаваліся і сярод адпачываючых.

**Турызм**

— Хаця надвор'е не вельмі спрыяльнае для адпачынку каля вады, аднак амаль увесь час занятыя месцы ў кватэрах каля вадасховішча Бахматы, — працягвае Лявон Мікуліч. — Каля вады 4 домікі на 40 асоб, дзе найчасцей двухмесныя пакоі, але ёсць і трох- ці чатырохмесныя. Нядаўна былі праваслаўныя дзеці з дзіцячых дамоў з Беластока і Супрасля, з якімі быў і святарнік. У іх быў свой ратаўнік, дык, калі было цёпла, плавалі на водных веласіпедах, ігралі ў настольны тэніс і розныя ігры, якія прыдумвалі апекуны і нашы працаўнікі гміннага асяродка культуры. Усе домікі, што каля вады — уласнасць гміны. Сёлета былі ў нас таксама і каратысты з клуба ў Сямятычах. Прыехалі дзеці і моладзь, пачынаючы ад трэцяга класа падставовай школы. Яны ўжо, апрача адпачынку каля вады, у асноўным праводзілі трэніроўкі. Была танцавальная група з Беластока, якая хадзіла танцаваць у памяшканне Гміннага асяродка культуры. Некалькі разоў арганізавалі мы спаборніцтвы для маладых вудзільшчыкаў. Калі добрае надвор'е, па суботах і нядзелях многія прыязджаюць прыватна ды прывозяць з сабой палаткі. Можна браць тут у нас на пракат водныя веласіпеды, байдаркі, а таксама і турыстычныя веласіпеды, каб паездзіць па ваколіцы. Турысты безупынна робяць вогнішчы і каб не ламалі маладых дрэў, мы пастаянна прывозім дровы з лесу.

Трэба аднак паінфармаваць бацькоў, якія пускаюць сваіх дзяцей на адпачынак каля вадасховішча Бахматы, што няма тут мясцовых ратаўнікоў — павінны яны прыязджаць разам з моладдзю.

**Аляксей Мароз**

# Беларусы пад Грунвальдам



*Усярэдзіне з вымпелам — беларускія рыцары.*

Беларускі рыцарскі клуб, які актывізаваў сваю дзейнасць у апошнія гады, быў запрошаны грамадскімі ўстановамі Польскай Рэспублікі на святкаванне з нагоды бітвы пад Грунвальдам. З-за фінансавых цяжкасцей у Польшчу змагло паехаць пяць прадстаўнікоў розных рыцарскіх клубаў Беларусі за свой кошт.

На знакамітае поле бітвы беларускія рыцары прыбылі светлым ранкам, калі абоз польскага рыцарства спаў у сваіх намётах, раскіданых па схілу гары сярод рэдкалесся. У цэнтры абозу ўзвышаўся самы вялікі намёт кіраўніка польскай дружыны. Толькі там быў нейкі рух, хадзіла варта і каля вогнішчаў рыхтавалася ежа. Беларусы паставілі свае намёты непадалёк і на высокіх дзяржаннях вывесілі харугву з гербам Менска і два вымпелы з гербамі, адзначыўшы такім чынам сваю тэрыторыю. Мы пачалі рыхтавацца да бітвы, што павінна адбыцца, згодна рэгламенту, а 17 гадзіне.

А 12 гадзіне ў кіраўніка Польскага рыцарства адбыўся ваенны савет, на якім прысутнічаў і аўтар гэтых радкоў. Планавалася, што супраць тэўтонцаў, на баку якіх выступілі польскія рыцарскія клубы крыжаносцаў, будуць выстаўлены тры атрады. У цэнтральным, дзе будзе сам польскі кароль, ролю якога выконваў кіраўнік польскага рыцарства В. Шыманскі, стануць нашы рыцары. Усяго ў бітве, згодна рэгістрацыі, бяруць удзел каля паўтысячы рыцараў з розных куткоў Польшчы.

К адзначанай гадзіне бітвы навакольная прастора запоўнілася гледачамі, якія прыехалі з розных мясцін Польшчы і нават Літвы. На жаль, мы не ўбачылі ніводнага жыхара Беларусі. Турысты заходзілі ў рыцарскі абоз і фатаграфаваліся з апранутымі ў латы і кальчугі ваярамі. Тэле-, радыё- і газетныя журналісты мільгацелі сярод вялікага натоўпу турыстаў і рыцараў, стараючыся браць інтэрв'ю ў кожнай дэлегацыі. Нарэшце, пачуўся прызыўны гуд ражкоў і ад намётаў пацягнуліся шэрагі рыцараў. Рушылі і мы.

І вось, войскі замерлі. Польскі кароль даваў нейкія каманды леваму і праву крылу войска. З боку тэўтонцаў раздаліся выбухі гармат. З натоўпу гледачоў адгукнуліся віскі сполаху. Турысты жыва адкіліся на падзеі. Ад тэўтонцаў рушыў атрад у бок правага флангу нашага войска, які таксама накіраваўся насустрач праціўніку. Напружанасць павісла ў паветры.

Пад грукат барабанаў і гукі ражкоў у бой пайшлі і мы. З боку крыжакоў рушылі рыцары з самім магістрам ордэна. Наступіла кульмінацыя бою. Перавага не змагла канчаткова вызначыцца. Але мужны націск усіх рыцараў адолеў крыжакоў. У паветры раздаліся радасныя крыкі пераможцаў. Магістра ордэна прынеслі на перакрыжаваных дзяржаннях пікаў да самога караля, які зафіксаваў яму сваю перамогу. І тут гледачы прарвалі ачапленне скаўтаў. Яны ў адзін момант апынуліся сярод абодвух лагераў рыцарства. Пакуль рыцары пакідалі поле бітвы, людзі падыходзілі да іх і фатаграфаваліся на памяць.

А ўвечары адбыўся шыкоўны салют, на эстрадзе ад вячорка да самага ранку выступалі спевакі і танцоры, гудом гула дыскатэка. У ларках прадаваліся сувеніры, пітво і ежа, ладзіліся атракцыёны і спаборніцтвы пажарных дружын і спартсменаў. Добра падрыхтаваліся мясцовыя ўлады да свята Грунвальдскай бітвы. На жаль, малая колькасць беларускага рыцарства, якое на сённяшні дзень налічвае амаль добрую сотню, не змагла, па вядомых абставінах, прыняць удзел у падзеі, значнай не толькі для народа Польшчы, але і для народа Беларусі.

**Пётр Русаў, Менск**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Духоўная экскурсія



*Я з конікам у Янаве-Падляшскім.*

10 чэрвеня г.г. вучні V-VIII класаў ПШ у Дубічах-Царкоўных паехалі на экскурсію ў Янаў-Падляшскі, Яблачын і на св. Гару Грабарку. Разам з намі пабывалі выхавацелі Галіна Трашчотка, Уладзімір Місяюк, Славамір Кулік і бацюшка Славамір Аўксянцюк.

**У Янаве**

У Янаў-Падляшскі заехалі мы перад адзінаццатай. Наведалі мы там стадніну, найбольшую ў Польшчы. Гадуецца там 450 коней рознага ўзросту, вельмі дагледжаных, прыгожых і каштоўных. Кожны конь каля стойла мае інфармацыйную даведку пра свой узрост і радавод. Цікава: канёва імя заўсёды пачынаецца першай літарай імя маці, напрыклад: Эма (кабыла) — Эўклід (жарабя). На таблічцы ніжэй направа — імя бацькі, а налева — год нараджэння жарабяці.

У час нашай экскурсіі стаяла пагода. Коні пасвіліся на лузе. Калі падышлі мы да плота, яны хутка прыбеглі да нас, шукалі ў нашых далонях цукровых костак; на жаль, мы пра гэта раней не падумалі... Коні вельмі ахвотна ставалі з намі да здымкаў. Найбольш каштоўныя і найпрыгажэйшыя з іх ездзяць на выстаўкі не толькі ў Польшчы, і там бяруць прызы.

**Яблачын**

Далей мы падаліся ў манастыр пад заступніцтвам св. Ануфрыя ў Яблачыне (свята 25 чэрвеня). Манастыр і царква распаложаны непадалёк мяжы з Беларуссю. Адна каплічка стаіць ля ракі Буг. Рака навяла на мяне сум і нейкі страх. Здавалася мне, што душа Буга крычыць, дамагаецца ратунку, бо ніхто ёю не цікавіцца. Наўкол берагоў расце высокая недаступная трава, яе вартавая.

Самое месца вельмі прыгожае. Чатырох манахаў вядуць гаспадарку, гадуюць карову з цялём, каня, курэй. Разлічваюць толькі на прыроду. Наўкол манастыра расце многа рознага квецця.

Дзеля турыстаў, прыязджаючых сюды часта (мы сёння былі сёмай экскурсіяй) дзейнічае крама. Тут можна набыць іконкі, крыжыкі, плакаты і многа сувеніраў, звязаных з манастырам і яго гісторыяй.

Калі мы ад'язджалі, я адчула такую духоўную чысціню, што не апісаць словамі маё перажыванне! У маім сэрцы было лёгка і радасна. Сустрэча з манахамі ўразіла мяне, я адкрыла ў сабе бліжэйшую сувязь з Богам.

**Святая Гара Грабарка**

На канец нашай вандроўкі мы наведалі Грабарку. Былі на святой гары толькі гадзіну (было ўжо досыць позна). Мы зайшлі ў царкву, якая 17 мая была асвячана. Манахіня расказала нам аб духоўным нялёгкім жыцці.

Наўкол царквы стаіць вельмі многа крыжоў. Людзі прыносяць іх, каб памаліцца, папрасіць у Бога здароўя і падзякаваць Яму за дапамогу.

Калі развіталіся мы з гэтым светлым месцам, кожны з нас набраў вады дахаты, прамылі мы сабе твар і рукі, каб быць прыгожымі, здаровымі і мудрымі. Праўда, як толькі мы былі ўвайшлі на гару, кінуліся кусаць нас камары, але, як жартаваў бацюшка, незвычайныя яны на Грабарцы.

Са святой Гары Грабаркі паехалі мы проста дадому — ўжо было вельмі позна. Па дарозе я думала аб гэтай цікавай экскурсіі, якая ўчыніла на мне вялікае ўражанне. Хацелася б, каб было больш такіх вандровак, карысных для душы.

**Бася Казімерук,**
**І кл. Гайнаўскага белліцэя**

## Вершы Віктара Шведа

### *Не я, тата, настаўнік вінаваты!*

Пытае бацька, надта знерваваны:
— Скажы мне шчыра,
неслухмяны сынку,
Чаму ты ўжо паўторна нечакана
Прыносіш па гісторыі адзінку?!

— Настаўнік наш мяне
не разумее,
Зрабіўся ўжо ён дзіваком
страшэнным!
Мяне заўжды пытае пра падзеі,
Што перад маім збыліся
нараджэннем.

### *Ізноў будуць заняткі*

Пытае матуля сыночка:
— Чаму плачуць зноў твае вочкі?
А на гэта сынок: — Акурат
Наш настаўнік хварэў
заўжды шмат...

— Ён памёр, сынку,
хочаш сказаць,
Болю горкага нельга суняць?
— Не, матуля, настаўнік якраз
Падлячыўся і прыйдзе
ў наш клас...

### *Загадка*

Вечарам прыляціць — усю ноч на зямлі праляжыць, а раніцай на неба зноў паляціць.

(Роса) [надрукавана дагары нагамі]

**Моніка Якімюк,**
**вуч. ПШ у Чыжах**

# Польска-беларуская крыжаванка № 35

**Адказ на крыжаванку н-р 31:** Яма, рак, рэклама, чарніца, гонар. Мара, эрг, акно, блін, праца, камар, Каір.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Sklep | Piękno | Noga / Ryż | ▼ | Kurz / Mak | ▶ ▼ | | ▼ | Lenistwo |
| ▶ Ślicz-notka | ▼ | ▼ | | ▼ | | Pożar | | Jawor |
| ▶ | | | | | | | | ▼ |
| Osoka ▶ | | | | | | 📖 | | |
| Komar | | 📖 | 📖 | Ruta ▶ | | | | |
| ▶ | | | | | 📖 | Ar ▶ | | |

# Маша і мядзведзь

*(руская казка)*

Жылі-былі дзед і баба. Была ў іх унучка Маша. Сабраліся раз сяброўкі ў лес — па грыбы ды па ягады. Прыйшлі зваць з сабою і Машу.

— Дзядулька, бабулька, — кажа Маша, — пусціце мяне ў лес з сяброўкамі!

Дзед і баба кажуць:

— Ідзі, толькі глядзі, ад сябровак не адставай, а то заблудзішся.

Прыйшлі дзяўчаткі ў лес, пачалі збіраць грыбы ды ягады. Вось Маша — за дрэўца ды за другое, за кусцік ды за другі — і адышлася далёка ад сябровак.

Пачала яна гукаць, пачала іх клікаць. А сяброўкі не чуюць, не адгукаюцца.

Хадзіла, хадзіла Маша па лесе — зусім заблудзілася.

Зайшла яна ў самую глуш, у самы гушчар. Бачыць — стаіць хатка. Пастукала Маша ў дзверы — ніхто не адзываецца. Штурханула яна дзверы — дзверы адчыніліся.

Увайшла Маша ў хатку, села каля акна на лавачку.

Села і думае:

„Хто ж тут жыве? Чаму нікога не відаць?.."

А ў той хатцы жыў вялізны-вялізны мядзведзь. Але яго тады дома не было: ён па лесе хадзіў.

З маіх падарожжаў

# Венецыя — горад на вадзе



Канал Грандэ.

Хто быў у Венецыі, той не забудзе яе хараства і непаўторнасці. Венецыя ляжыць у паўночна-ўсходняй частцы Італіі на больш за сотню выспах, якія ўваходзяць у склад архіпелага, што знаходзіцца ў заходняй частцы Венецыянскага заліва.

З вышыні птушынага палёту горад выглядае, як рыба, перарэзаная велізарнай літарай „ S”, якую стварае Канал Грандэ. Характэрнай рысай Венецыі з'яўляецца тое, што няма тут дарог, перапоўненых наземным транспартам, гучным і забруджваючым атмасферу. Уся ўнутраная камунікацыя адбываецца тут воднымі шляхамі, дзякуючы 150 каналам, спалучаным між сабою. Галоўнай артэрыяй, аднак, з'яўляецца Канал Грандэ.

Па большых каналах курсуюць караблікі, якія выконваюць функцыю водных трамваяў. Называюцца яны „вапарэта”. З выспы Ліда мы хутка дабіраліся на гэтых „трамваях” да пляца Святога Марка.

Па вузейшых каналах, якія маюць 4-6 метраў шырыні, плаваюць прыгожыя гандолы, малыя маторныя лодкі і катэры, якія дастаўляюць тавары ў крамы.

Гандолы найраней паявіліся ў венецкім пейзажы, ужо ў VII стагоддзі. Маюць яны арыгінальную форму. Хаця выглядаюць, як лупінка, яны вельмі моцныя і стабільныя. Калісьці, да XVI стагоддзя гандолы былі рознаколерныя, іх аббівалі каштоўным матэрыялам і клалі ў іх падушкі. Толькі ў 1562 годзе, па загадзе Венецыянскага сената іх пачалі маляваць чорным колерам.

Гандолы ў Венецыі, якія я бачыла, у большасці былі прычалены, а гандальеры сумна спаглядалі навокал, выглядаючы кліента. Сёння пакатацца на гандоле можа не кожны. Надта многа гэта каштуе, таму дазваляюць сабе на гэта толькі вельмі багатыя турысты.

Калі едзем па Канале Грандэ, бачым па абодвух берагах цудоўныя палацы, пабудаваныя на працягу XII—XVIII стагоддзяў. Іх тут больш ста пяцідзесяці. Венецыянскія палацы адрозніваліся ад будоўляў іншых гарадоў тае эпохі тым, што не выглядалі як замкі ці крэпасці, а як люксусныя магнацкія рэзідэнцыі, галоўнай рысай якіх былі лёгкасць, ажурныя балконы і вялікія вокны. Багатыя роды патрыцыяў супернічалі між сабою за месца над Каналам Грандэ і будавалі водную вуліцу з казачнай архітэктурай.

Перад палацамі знаходзяцца слупы для прычальвання гандолаў. Некаторыя з іх вельмі старыя і на іх захаваліся яшчэ шляхецкія гербы.

На дахах венецыянскіх дамоў будавалі альтанкі. Гэта такія драўляныя тэрасы з малым агародам. Летам венецыяне праводзілі тут вечары пры песнях і музыцы. Кажуць, што калісьці тутэйшыя жанчыны праседжвалі цэлымі гадзінамі на тэрасах у гарачыя дні. Надзявалі на галаву саламяныя капелюшы з адкрытай галоўкай, праз гэту дзірку выстаўлялі наверх свае доўгія валасы на сонца, каб атрымацца бландколер.

Берагі каналаў у Венецыі спалучае каля 400 мастоў. Спачатку яны былі драўляныя і плоскія, па іх можна было праехаць на кані. Пасля (ад XV ст.) пачалі будаваць мураваныя масты, найчасцей ў форме лука, са сходкамі і балюстрадай.

Венецыянскія вулачкі, па якіх ніхто не ездзіць, вельмі вузкія. Часамі немагчыма там размінуцца двум пешаходам. Там лёгка заблудзіцца. Дзякуй Богу, што ёсць стрэлкі, куды ісці.

**Адрыяна Семянюк**
*Фота аўтара*

# Барсук у няволі

Пад канец ліпеня гэтага года, з самай раніцы, я пайшла ў лес па грыбы. Побач лесу і дарогі быў забыты калодзеж. Мне захацелася заглянуць у яго. Я ўсхвалявалася, сэрца пачало біць мацней і мацней: убачыла там вельмі прыгожага звярка. Поўсць на ім была чорная і бліскучая, з белай палоскай на галаве. Гэта быў барсук. Мне стала шкада яго. Я стаяла і думала, як дапамагчы гэтаму прыгожаму звярку.

Накіравалася я ў вёску Локніцу, што непадалёк лесу. Па дарозе сустрэла селяніна і расказала аб тым, што я пабачыла. Нашы сяляне вельмі шкадуюць звярыну і таму рашылі дапамагчы барсуку. Узялі плахту і направіліся да калодзежа. На шчасце, не быў ён глыбокі. Трымаючы за рогі коц, апусцілі яго ў калодзеж. Барсук так ласкава глядзеў людзям у вочы, быццам прасіў, каб яму дапамаглі выйсці на волю. Палкаю сяляне падагналі яго на плахту і выцягнулі на зямлю. Толькі плахту расклалі, звярок так пайшоў, што за ім і след прастыў!

**Аліна Сіроцка,**
**ПШ у Чыжах**



*Сябры „Зоркі” з V „ц” бельскай „тройкі”.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Вярнуўся ўвечары мядзведзь, убачыў Машу, уцешыўся.

— Ага, — кажа, — цяпер не пушчу цябе! Будзеш у мяне жыць. Будзеш у печы паліць, будзеш кашу варыць, мяне кашай карміць.

Пабедавала Маша, пасумавала, ды нічога не зробіш. Пачала яна жыць у мядзведзя ў хатцы.

Мядзведзь на цэлы дзень пойдзе ў лес, а Машы наказвае нікуды без яго з хаткі не выходзіць.

— А калі пойдзеш куды, — усё роўна злаўлю і тады ўжо з'ем!

Пачала Маша думаць, як ёй ад мядзведзя ўцячы. Наўкол лес, у які бок ісці — не ведае, папытацца няма ў каго.

Думала яна, думала і прыдумала.

Прыходзіць раз мядзведзь з лесу, а Маша і кажа яму:

— Мядзведзь, мядзведзь, пусці мяне на дзянёк у вёску: я бабулі і дзядулю гасцінцаў занясу.

— Не, — кажа мядзведзь, — ты ў лесе заблудзішся. Давай гасцінцы, я іх сам занясу.

А Машы якраз гэтага і трэба!

Напякла яна піражкоў, дастала вялізны кораб і кажа мядзведзю:

— Вось глядзі: я ў гэты кораб накладу піражкі, а ты занясі іх дзядулю і бабулі. Ды памятай: кораб па дарозе не адкрывай, піражкоў не даставай. Я на дубок залезу, за табой сачыць буду!

— Добра, — кажа мядзведзь, — давай кораб!

Маша кажа:

— Выйдзі на ганак, пагляздзі — ці не ідзе дожджык!

Толькі мядзведзь выйшаў на ганак, Маша хуценька залезла ў кораб, а на галаву сабе паднос з піражкамі паставіла.

Вярнуўся мядзведзь, бачыць, — кораб гатовы. Узваліў яго на спіну і пайшоў у вёску.

Ідзе мядзведзь паміж ялінкамі, брыдзе мядзведзь паміж бярэзінкамі, у лагчынкі спускаецца, на ўзгоркі падымаецца. Ішоў-ішоў, стаміўся і кажа:

— Сяду на пянёк,
З'ем піражок!

А Маша з кораба:

— Бачу, бачу!
Не сядай на пянёк,
Не еш піражок!
Нясі бабулі,
Нясі дзядулю!

— Ну і зіркастая, — кажа мядзведзь, — усё бачыць!

Падняў ён кораб і пайшоў далей. Ішоў-ішоў, ішоў-ішоў, спыніўся, сеў і кажа:

— Сяду на пянёк,
З'ем піражок!

А Маша з кораба зноў:

— Бачу, бачу!
Не сядай на пянёк,
Не еш піражок!
Нясі бабулі,
Нясі дзядулю!

Здзівіўся мядзведзь:

— Ну і хітрая! Высока сядзіць, далёка глядзіць!

Устаў і пайшоў хутчэй.

Прыйшоў у вёску, знайшоў дом, у якім дзед з бабай жылі, і давай з усяе сілы стукаць у вароты:

— Тук-тук-тук! Адмыкайце, адчыняйце! Я вам ад Машы гасцінцаў прынёс.

А сабакі ўчулі мядзведзя і кінуліся на яго. З усіх двароў бягуць, брэшуць.

Спужаўся мядзведзь, паставіў кораб каля варотаў, а сам хутчэй у лес наўцёкі.

Выйшлі тут дзед і баба да варотаў. Бачаць — кораб стаіць.

— Што гэта ў корабе? — кажа бабуля.

А дзед падняў вечка, глядзіць — і вачам сваім не верыць: у корабе Маша сядзіць — жывая і здаровая.

Узрадаваліся дзед і баба. Пачалі Машу абдымаць, цалаваць, разумненькай называць.

**Якія мы людзі**

# Помнік

Старая бяздзетная ўдава памірала. За доўгія гады адзіноцтва яна навучылася быць сама з сабою. Праўда, навокал заўсёды былі нейкія людзі, якія — у залежнасці ад перыяду — называлі яе то мамай, то цёцяй, але адно яна цвёрда ведала: усе яны былі чужыя.

Ляжала старая на ложку смерці і ўспамінала сваё некароткае жыццё. Як медыцынскі работнік добра ведала, што няма ратунку на яе хваробу. Тым нямногім, што наведвалі яе ў шпіталі, яна беспамылкова, па этапах прадгадвала, што далей будзе з ёю.

Старалася ўсё ж адганяць ад сябе чорныя думкі. Успамінала той салодкі час, калі жыла яшчэ мама і свет на вуліцы Злотай у Варшаве (па-суседску з Мецем Фогам) здаваўся ёй каляровым і прыгожым. Нават не мусіла заплюшчваць вачэй, каб адчуць у роце смак велікоднай бабкі, якую пякла мама.

Як у калейдаскопе, змяняліся перад ёю карцінкі з ранейшых падарожжаў. Вось яна вандруе вузкімі вулачкамі Барселоны, аглядае Парыж з Эйфелевай вежы, а тут у пустыні кідае цукеркі дзецям бедуінаў.

О не! Да прыкрых момантаў з часоў вайны лепш не вяртацца. Навошта вярэдзіць душу... Каб была не села яна ў той няшчасны трамвай, з якога выпіхнулі яе ўцякаючыя на вокліч: „Аблава!" людзі, можа б яе дзіцятка нарадзілася жывенькае. А так... усё жыццё, хаця за добрым мужам, быццам сіратою пражыла.

Сіроты, яны, вядома, жыццё ведаюць лепш за іншых. І людзей патрапяць ацаніць як ніхто. Усё адчуваюць удвая мацней, але і больш балюча. Такія людзі, трэба прызнаць гэта ім, памыляюцца рэдка.

За адно паміраючая жанчына была спакойная: што ўсё падзяліла, як трэба. Да смерці пачала рыхтавацца ўжо паўгода таму, як толькі зразумела, што ў яе за хвароба. Бо і як жа так проста пакінуць сваю маёмасць...

Была гэта немалая праблема для старой. Сваіх няма, чужым — не дам, казала яна сама сабе. Зрэшты, мне не даваў ніхто, канстатавала. Самі з мужам на ўсё зарабілі. Сваімі рукамі і галавой.

І трэба сказаць па шчырасці: абдзяліць дабром з гэтай хаты можна было б не адну сямейку. Ужо загадзя старая пачала прадаваць з хаты ўсе каштоўныя рэчы. А тут яшчэ сярэбраны паднос, нейкая цукарніца, кілішкі. Сярэбраныя лыжкі і відэльцы прадала адразу. Нават старыя мужавы ноты (ён іграў у яе на скрыпцы) нікому не аддала ў падарунку, дарма: за ўсё трэба было ёй заплаціць.

Старая памірала з чыстым, ясным розумам — і ад гэтага не было ёй лягчэй. Усё жыццё ўмела яна шанаваць грош, як ніхто. У душы падсмейвалася над наіўнымі беластачанамі, сярод якіх давялося ёй жыць пасля вайны: для іх грошы не былі сэнсам жыцця і яны іх ашчаджаць не ўмелі. Сёння зараблялі, заўтра — выдавалі. Ніяк не магла зразумець старая, што ўсё мае свой сэнс, і тыя „беластачане" прынамсі не мелі праблем тыпу: „Каму пакінуць?!"

Але так наогул яна любіла гэтых людзей. Ніколі яны не прыходзілі да яе з пустымі рукамі. Было і віно, і заўсёды нешта салодкае, ды і за мяса ці вяндліну, калі яна папрасіла купіць, грошай ад яе не бралі. Разумелі: адзіноцтва — горш за беднасць. Шкадавалі яе. А зрэшты, і яна ўмела стварыць хатні настрой дзякуючы нейкай свежай, пахучай страве.

Усю сваю каштоўную біжутэрыю, якую старая збірала на працягу многіх гадоў, яна вырашыла перадаць найбольш надзейнаму апекуну на тым свеце — Касцёлу. Калі думала пра гэта, на сэрцы станавілася цёпла. Касцёл абароніць! А мо проста меркавала, што такім чынам зможа запэўніць сабе месца ў небе.

Тутэйшых людзей старая любіла, але ніколі не даверыла б ім сваіх грошай. Дай такім на помнік, дык яны табе ўсё растранжыраць, пакуль суд ды дзела.

Пастанавіла, што заашчаджаныя і сабраныя за прададзеныя рэчы грошы падзеліць паміж дваіма блізкімі ёй па складу духа людзьмі, якія на дадатак не былі „тутэйшымі". Не, у іх грош праз пальцы не выплыве! І пахаваюць па-людску, і помнік паставяць.

Першай была жанчына, якая мела сваю фірму, прыгожы асабняк і наймаднейшы самаход. Пры гэтым была замужняя і мела двое дзетак. Сям'я функцыянавала правідлова, а грошай ім не бракавала.

Бязмежна верыла старая і другому чалавеку — выкладчыку вышэйшай школы, які штодзённа сваю дарогу на працу пракладваў праз Фарны касцёл. Меў жонку і чацвёра дзяцей. Аднаго хлопца старая нават хрысціла.

Жанчыне старая пакінула грошы на сваё ўрачыстае пахаванне і памінкі. Яму ж загадала паставіць помнік на могілках, ды такі, каб над іншымі ўзвышаўся, а быў для яе і мужа.

Такая была яе апошняя воля, і старая аніколечкі не сумнявалася, што ўсё будзе так, як яна хацела. Людзі ж былі горача веруючыя.

* * *

Мінула многа гадоў ад таго часу, калі старую бяздзетную ўдаву пахавалі. Пахаванне не было такое гучнае, як хацела паміраючая. Не спраўлялі і памінак. Вядома, на ўсё не хопіць, пераконвала жанчына, якой старая даверыла грошы.

А помнік? Няма яго да сёння. Той моцна веруючы чалавек сказаў: „Ну, бадай, майму сыну нешта належыцца, усё ж такі гэта яна яго хрысціла!" Сказаў такія страшныя словы, ігнаруючы апошнюю волю старой, і нават ужо не мае шанцу апамятацца, бо ўжо і ён памёр.

Бач ты, старая і вопытная баба была, а ў людзях не разабралася. Яно, відаць, заўсёды так бывае: хто любіць грошы, сапраўды іх са сваіх рук не выпусціць. Апошняя воля? — а яна тут прычым...

Ада Чачуга

# Шура, Шурык і шыла

Шура і Шурык пабраліся шлюбам з вялікага кахання трыццаць пяць гадоў таму. Жывуць на хутары, кіламетр ад вёскі. Трыццаць гадоў былі прыкладам згоднага сужыцця ва ўсім наваколлі. Пяць гадоў таму здарылася ў іх такое, пра што людзі ўвесь час успамінаюць і смяюцца.

У веснавы сонечны ранак Шурык шукаў шыла. Шура ў пакоі на швейнай машыне шыла плашч. Не знайшоўшы шыла ў сваім складзе, Шура стаў яго шукаць дома. Не было яго ні ў пасуднай шафе, ні ў шуфлядзе кухоннага стала. Тады Шурык стаў шукаць у пакоі. Нічога не знайшоўшы ў шафе і камодзе, рашыў заглянуць у шуфлядку швейнай машыны. Ступіў два крокі і спатыкнуўся. Упаў па жончыну спіну. Шура са злосці ўкалола Шурыка шылам у нагу.

— Чаго круцішся, дурань стары?! Я праз цябе магла б пакалечыцца! Іголка ўвайшла б у палец! — злосна крычала жонка.

— Я не дурань! — прабаваў апраўдацца муж. — Гэта ты — шалёная баба! Я ўжо гадзіну шукаю шыла, а яно ў цябе!

— Ты мне не сказаў чаго шукаеш!

— Падумаеш! Паведамляй яе аб усім, як загадчыка якога! Бабу трэба трымаць коратка і найлепей нічога ёй не гаварыць!

— Што!!! — крыкнула Шура. — Мы пражылі трыццаць гадоў! Ты ж прысягаў, што маніць не будзеш і пра тое ж прасіў мяне. Цяпер называеш мяне шалёнай бабай і хочаш мяне ашукаць. Не! Так не будзе! Я табе адпомшчу!

Жанчына схапіла табурэтку і замахнулася. Шурык хацеў вырваць з рук жонкі табурэтку, але ў яе была чартоўская сіла. Шура замахнулася другі раз, але Шурык адскочыў убок і табурэтка ўдарыла ў сцяну, ажно тынк пасыпаўся.

Шурык выскачыў на панадворак. Шура пабегла за ім. Калі даганіла, увапхнула яго ў склад, зачыніла дзверы і сказала:

— Суткі тут праседзіш.

— Шурка, Шурачка, — прасіў муж, — апамятайся. Прабач мне. Больш такіх глупстваў гаварыць не буду. Не гневайся і выпусці мяне. Сцяну ў пакоі адрамантаваць трэба.

— Не, не выпушчу! Будзеш сядзець да заўтра, — выгукнула Шура.

Жанчына вярнулася дахаты. Мужчына прабаваў зламаць дзверы, але не здолеў. Рашыў разбіць столь і вылезці праз дах.

У гэты момант на панадворак увайшоў Коля з вёскі, які прыйшоў прасіць дапамогі пры рамонце трактара. Калі пачуў грукат, падумаў, што Шурык корпаецца ў складзе, аднак вельмі здзівіўся: на дзвярах вісеў замок.

— Ёсць там хто?! — крыкнуў.

Пачуўшы голас Колі, Шурык апусціў рукі: „Вось што нарабіла баба, — падумаў. — Што Коля скажа?"

Коля зайшоў у хату, прывітаўся з Шурай і паведаміў, што нешта грукае ў складзе.

— Што гэта можа быць? — прыкінулася Шура. — Хадзі са мною, пабачым што там дзеецца. Я сама баюся.

— Дзе Шурык? — спытаў Коля.

— Не ведаю, — далей маніла Шура. — Як пайшоў вечарам у клуб, дык яшчэ не вярнуўся. Я ўжо хацела званіць на паліцыю.

Жанчына адкрыла дзверы склада. Коля заглянуў у сярэдзіну і пабачыў Шурыка.

— А чаму ты тут схаваўся, — засмяяўся Коля. — Жонка хацела ўжо на паліцыю тэлефанаваць. Шчасце, што я прыйшоў. Ведаеш, што было б, калі б паліцыя цябе тут знайшла?

— Гэта ўсё не так як ты думаеш, — прамовіў чырвоны як бурак Шурык. — Гэта...

— Вачам сваім не веру, — перарвала яму Шура, — учора я доўга чакала цябе. Выйшла на панадворак, пастаяла ля фортачкі, праверыла ці ўсё закрытае. Дзверы твайго склада былі адчынены. Я вярнулася дадому, узяла ключы і зачыніла склад.

— Чаму ты хочаш мяне абняславіць? Ты добра ведаеш, як было, — прабаваў Шурык супакоіць жонку.

— Можа ён пачаў хадзіць да ўдавы Райкі? Мабыць, на старасць хоча змяніць жонку, — смяяўся Коля.

— Што?! — прыкінулася зайздраснай Шура. — Пасля трыццаці гадоў хоча адысці да Райкі?!

Шура схапіла малаток і кінулася на мужа. Шурык выскачыў са склада і пабег у лес. Жонка бегла за ім ды крычала: „Заб'ю цябе! Не хочаш быць мой, не будзеш і яе!"

Коля вярнуўся ў вёску і пра ўсё расказаў суседзям. Усе дзіваваліся і смяяліся з Шурыка і Шуры. Толькі Райка абразілася на Колю.

— Я ўжо старая жанчына, — гаварыла ўдава людзям, — мне не патрэбны другі муж. Праз Колеў язык Шура можа мяне лаяць, а нават біць.

Шура з Шурыкам сварыліся і ганяліся ўвесь тыдзень. Шурык начаваў у гумне. Ніяк не мог ён пераканаць жонку, каб супакоілася.

Мужчыны, пабачыўшы Шурыка на пункце скупкі малака, казалі: „Ідзе бычок, якога карова рагамі падкідае".

На хутар заехала найстарэйшая дачка з сям'ёю. Выйшаўшы з машыны, убачылі, як маці ганяецца з малатком за бацькам.

— Што тут дзеецца? — развяла рукамі дачка.

Шурык расказаў пра ўсё здарэнне. Зяць з унукамі заходзіліся ад смеху.

— Перастань, мама, шалець! Граху не баішся. Нарабіла сораму мне і бацьку. Калі так будзеш далей шалець, больш не прыедзем!

Шура аднесла малаток у склад.

— Хадзі, Шурык, дадому, — сказала мужу, — будзем сцяну ў пакоі рамантаваць.

Шурык з зяцем тынкавалі сцяну, Шура з дачкою гатовілі абед.

З гэтай пары зноў жывуць яны згодна. Аднак людзі смяюцца і называюць іх дзівакамі. Ужо ніхто не скажа, што Шурык і Шура — прыкладная шлюбная пара.

Аўрора

# Як я перамог камунізм

У 1943-44 гг. на ссыльцы мяне вучылі асновам марксізму-ленінізму, да якога, з прычыны ягонага атэізму, я ставіўся негатыўна. Пасля таго, як адзін з маіх магістэрскіх дыпломаў датычыў дакладнай філасофіі, Саюз польскіх пісьменнікаў запрасіў мяне на дыскусію на тэму гуманізму між марксістамі і рымакатолікамі.

Выступіў я першым з тлумачэннем паняцця гуманізму. Магатма Гандзі (1869-1948) лічыў, што гуманізм — гэта самаахвярнасць асобы адносна сям'і, сям'і адносна народа, народа адносна чалавецтва. Ці вечнае яно? Паводле закону энтрапіі ўсякі арганізм, усякая матэрыяльная зборнасць у бясконцым часе абавязкова дэзарганізуецца, разбураецца, перастае існаваць. Нат калі людзі пераселяцца ў космас, на іншыя планеты.

Для чаго ж тады самаахвяравацца? Для нуля? Для чагось, што стане нябытам? Ніхто мяне не аспрэчыў, што без прыняцця аксіёмы існавання чалавечай душы пасля смерці ў замагільным свеце а, значыцца, і Бога — гуманізм астаецца бяссэнсіцай, недарэчнасцю, бязглуздзіцай.

Што ж было далей? Генерал Войцех Ярузельскі — падляшук — сканцэнтраваў у сваіх руках усю ўладу: адміністратыўную, партыйную і вайсковую. Калі ён выбіраўся ў падарожжа на Захад, звярнуўся да народу прысылаць яму свае прапановы наконт удасканалення, паляпшэння жыцця ў Польшчы. Пазваніў і я яго сакратарцы. Яна мяне падбадзёрыла, дадала смеласці, сказаўшы: „Абавязкова напішыце!" Вось я і паўтарыў вышэйзгаданыя думкі, дадаючы, што неабходным, абавязковым кампанентам марксізму-ленінізму з'яўляецца атэізм пакладзены ў аснову гістарычнага матэрыялізму. Я падкрэсліў і тое, што Масква нам не ўказ, бо ў нас фальмальна існуе ўсё ж такая-сякая незалежнасць. Калі Савецкі Саюз хоча дурыцца, гэта іхняя справа. У нас тысячагадовае Хрысціянства і касцёлы ніхто не збіраецца руйнаваць, як на „святой Русі". У рэзультаце на чарговым з'ездзе партыі генерал Ярузельскі заявіў, што цяпер веруючыя могуць уступаць у партыю, „бо мы іх у ёй перавыхаваем". Гэта было нешта новае, крок наперад.

Пасля прыехаў папа рымскі — паляк і генерал прымаў яго ў Каралеўскім замку ў Варшаве. Я сам па радыё чуў яго нечаканыя словы, што „Польшча — дзяржава свецкая, але не атэістычная". Як на гладкай паверхні шкляной пліты спярша малая трэшчына з цягам часу пашыраецца, так і прысутнасць веруючых у партыі зруйнавала ў ёй чыстату ідэалогіі ў савецкім стылі. Неатэістычны камунізм ужо не камунізм, а нешта іншае, напрыклад, сацыялізм, хаця б такі як у Швецыі, якая зусім непадобная да Расіі.

Гэтая сітуацыя падрыхтавала ўмовы для прыходу да ўлады „Салідарнасці". Камунізм праваліўся, бо яго цяпер падтрымоўвае менш як палавіна насельніцтва Польшчы. Трэба яшчэ дваццаць пакаленні, каб людзі перасталі верыць у словы „Інтэрнацыянала":

„І свет на новы лад збудуем:
Хто быў нічым — той будзе ўсім!"
„Зямля ты і ў зямлю павернешся" — піша Біблія...

Мо генерал Ярузельскі цяпер больш агностык чым атэіст? Чаму ён пасля пажару Грабаркі ахвяраваў ёй звон, што і выгравіравана на яго баку. Дзеля яго падляшскасці ці веры? І вось, менавіта, Польшча памагла вызваліцца з аковаў чырвонага таталітарызму і Расіі, і ўсходнееўрапейскім дзяржавам.

Споўнілася прароцтва майго дзеда, які ўміраючы прадказаў, што камунізм у Расіі будзе трываць 70 гадоў.

„Усё Ты прамудра стварыў, о Госпадзе" (Псальм 103).

**Сэрафін Корчак-Міхалеўскі**

# Новы паклоннік

Або Януш Врубэль строіць дурня, або фактычна не ведае чаму ў Беластоку ідуць намаганні, каб утварыць радыё „Wolna Białoruś" („Nie" nr 30/98 і „Nie" nr 32/98). Усім вядома, што журналісты „Nie" найлепш паінфармаваны сярод усіх супрацоўнікаў польскіх рэдакцый. Затым Врубэль дурня строіць! Але дзеля чаго і каго?!

Я, скромны грамадзянін Рэчы Паспалітай, чытаю „Gazetę Wyborczą", „Politykę" і „Nie". Бачу розныя погляды на тыя самыя справы. Магу сам аднесціся да іх і мець свой погляд, і ў сувязі з тым раз на чатыры гады мець магчымасць выбіраць уладу. Я. Врубэль ведае, што такой магчымасці звычайны жыхар Рэспублікі Беларусь не мае. Апазіцыя там мае абмежаваны доступ да радыё, тэлебачання і прэсы. Палітыка Лукашэнкі ідзе ў кірунку русіфікацыі і далучэння Беларусі да Расіі. Ці ў такой ступені свядомыя сваёй нацыянальнасці беларусы ў Беларусі і па-за яе межамі маюць спакойна прыглядацца паніжэнню нацыі? Маюць яны маўчаць толькі таму, каб не парушаць „przyjaznych stosunków z krajami oddzielającymi nas od Rosji"?

Непатрэбна Врубэль клапоціцца праблемамі, якія чакаюць „nieznane siły ze spółki „Racja", якія бяруцца за арганізацыю і ўтварэнне незалежнага беларускага радыёвяшчання. Думаю, што ўсе перашкоды арганізатары пераадолеюць без указальнай помачы Я. Врубля.

Дзіўна, што Я. Врубэль з'яўляецца паклоннікам палітыкі Лукашэнкі ў III Рэчы Паспалітай. Можа атрымае за гэта ордэн ад Лукашэнкі, так як атрымалі іх іншыя паклоннікі ягонай палітыкі.

**Міхась Куптэль**

# Сваё гняздо

Усім вядома, што птушка ніколі не паскудзіць у сваё гняздо, заўсёды трымае прыкладны парадак. Таксама і чалавек павінен трымаць парадак у сям'і, у арганізацыі ці партыі, да якой належыць. Але гэтага ў нас няма. Чалавек бяжыць за багаццем, за грашыма і стараецца ашукаць іншых.

Два гады таму я заклікаў лідэраў беларускіх арганізацый прымірыцца, адпускаў сваю хату на аб'яднаўчую сустрэчу, але ніхто з іх не адгукнуўся. Мне здаецца, што гэта вельмі дрэнны знак. Можа быць многа арганізацый, але іх лідэры павінны між сабой супрацоўнічаць, дагаварвацца ў важных справах, хоць два разы ў год ладзіць супольныя сустрэчы, асабліва перад выбарамі, каб выступіць супольна і атрымаць перамогу на іх.

У мінулых парламенцкіх выбарах нашы лідэры пацярпелі паражэнне, але ніхто адкрыта да гэтага не прызнаўся. Цяпер ужо запозна, каб да кастрычніцкіх самаўрадавых выбараў аб'яднацца і супольна выступіць, але будуць яшчэ не адны выбары. Аднак ужо цяпер трэба пачаць весці перагаворы наконт аб'яднання і таму звяртаюся да ўсіх беларускіх лідэраў з заклікам аб'яднацца з украінцамі, расейцамі, літоўцамі і іншымі меншасцямі, якія пражываюць у нашай дзяржаве, і супольна змагацца за сваю культуру, фальклор ды веравызнанне.

Мая прапанова надалей застаецца актуальнай. Чакаю водгуку лідэраў.

**Мікалай Лук'янюк**

# Нарваўскі Узнясенскі манастыр

Настаяцель прыхода а. Канстанцін Клачкоўскі ў сваёй „Хронікі Нарваўскай царквы" ад 1900 года запісаў паданне аб абставінах заснавання царквы ў Нарве. Адзначыў ён, што карыстаўся заметкамі каморніка Станіслава Дзевялтоўскага (1560 г.). Паводле іх, у 1518 годзе князь Іван Вішнявецкі атрымаў ад жонкі Анастасіі Алізаравічанкі (праваслаўнай) нарваўскую маёмасць. Падарожнічаючы з Варшавы ў Вільню, князь Вішнявецкі перапраўляўся на пароме цераз раку Нарву. Калі ў будане перавозчыка князь заўважыў святло, якое гарэла перад іконай св. Антонія Пячэрскага, запрапанаваў яму паставіць капліцу і на гэтую мэту ахвяраваў трыццаць чырвонцаў. У зваротнай дарозе заўважыў ён ужо сцены царквы і даў абяцаныя на завяршэнне будовы грошы. Столькі звестак падае „Хроніка".

Культ св. Антонія Пячэрскага, які асабліва шанаваўся ў Кіеўскай Русі, распаўсюдзіўся далёка па-за яе межы і пранік у Вялікае княства Літоўскае і Падляшша. У Нарве свята Антонія Пячэрскага ўрачыста адзначаецца да сённяшняга дня. І не з'яўляецца гэта нечым выпадковым, а толькі доказам існавання манаскага жыцця ў ваколіцах Нарвы ў XVI стагоддзі. З друкаванай крыніцы даведваемся, што пустэльніцкае манаскае жыццё пачалося тут перад 1574 годам. У той час такая форма манаскага подзвігу была шырокараспаўсюджанай і стала пачаткам манастыра. Сціпласць манахаў і адсутнасць шчодрых ахвяравальнікаў у першых гадах не пасадзейнічала ўзвядзенню манастырскіх пабудоў. Паводле тадышняй традыцыі, манахі жылі ў скітах — жыллі для пустэльнікаў, размешчаных далёка ад манастырскага будынка. Доказам гэтаму можа паслужыць ліст (без даты) пустэльніка Гальяша да князёўны Анны Астрожскай, у якім пішацца: *Ja Heliasz Pustelnik Puszczy Narewskiej w które puszczy mieszkałem lat siedemnaście, pokarmy mnie były pszczółka y jagody suche. Apostolską cieknącą wodę piłem, y to niecodziennie y niedosytości. Co pod przysięgą powiadam sprawiedliwie. A gdy poczęli ludzie życiu moim sąsiednie y mnie nawiedzać, jam umyślił iść do Ziemi Świętey.*

Хаця афіцыйных дакументаў няма, заснаванне Нарваўскага манастыра можна аднесці да зямельных надзелаў, дадзеных манастыру ўладальнікамі гэтых маёмасцей у 1525, 1529 і 1574 гадах. У 1525 годзе ваявода віленскі Альбрэхт Гаштольд пасведчыў, што Аляксандр Хадкевіч уступіў мястэчку Нарве сваю зямлю: *... и пан воевода виленский водле розказания и данины нашое там выездил и опыт чинил в старих бояр и людей наших гдеж пан Александро поступил своей властное пущи подданым нашим и месту наровскому в должь на милю, а поперок на пол мили. А потом пан воевода Его Милость Виленский межы тыми землями граней поклал, почонши од Великое Дороги Наровское которая идет к Рудником над тою речкою Ольшаницою, казал Его Милости грани учинити черес боры и лесы и болота до речки Заболотнянки... а од тое речки Заболотнянки до Рапин лесу.* Згаданыя грунты былі распалажаны на правым беразе Нарвы над рэчкай Альшанкай, па-над рэчкай Забалачанкай (у верхнім цячэнні ракі Гознай) да рэчкі Зацісоўкі і цягнуліся пасам на 8 км доўгім і на 4 км шырокім.

Колішняя зямля Хадкевіча не была перапісана мястэчку Альбрэхтам Гаштольдам у 1529 годзе. У прывілеі на магдэбургскае права ад 1529 годзе чытаем: *tereny przy jednej części miasta i przy drugiej części leżącej za Narwią naprzeciw Olszanycza zaczynając się od rzeki zwanej Narew dajemy samym obywatelom i przyjmujemy pola i ziemie w długości i szerokości do uprawy.* Аднак было адзначана *z wyjątkiem lasów, ziem, pól i przejść, inaczej wchodów należących od dawna do naszej szlachty między rzekami Olszanycza i ponad Hożną* (верхняе цячэнне Гознай — гэта Забалачанка), *bo dawna szlachta w spokoju te tereny posiada.*

Пазнейшыя дакументы не пацвярджаюць, што пералічаныя грунты належалі мястэчку. У 1576 годзе мястэчка Нарва мела на Альшаніцы толькі 2 валокі зямлі, вымераныя ў 1529 годзе. Пры вусці Альшаніцы ў Нарву знаходзілася гарадзішча Кудок. Можна меркаваць, што ў гэтым месцы ўзнік Нарваўскі манастыр з зямельнай маёмасцю. У XVI стагоддзі Анна Хадкевічанка, дачка Рыгора, Нарваўскую пушчу, якая цягнулася аж на правы бок ракі Нарвы, перадала Фёдару Масальскаму. Той тастаментам ад 8 чэрвеня 1574 года запісаў заселеныя грунты разам з нерухомай маёмасцю Нарваўскаму манастыру: *на монастыр иночаский закону греческого старожытного... далисмо грунт и на оседление подданых в обрубе своем волок дванадцать а на пашню гумна монастырского волок три.* Заснавальніцкі дакумент у выглядзе тастамента засведчвае, што на гэтай тэрыторыі жылі манахі-пустэльнікі, але ўзнікненне манастыра паводле статута св. Васілія Вялікага можна аднесці да 1607-1617 гадоў.

У той час, калі Масальскі стаў уладальнікам згаданай зямлі, узнікла вёска Адрынкі. У тастаменце ўпамінаецца 12 валок на пасяленне падданых і 3 валокі на манастырскае поле. У тастаменце няма надання зямлі вёсцы Адрынкі, але суседняя вёска Ванева, прадмесце Нарвы, мела тады 13 валок. З гэтага апісання можна меркаваць, што для манастыра надышоў складаны час, бо ў дакументах не згадвалася яго існаванне. Князь Масальскі пазней набыў Нарваўскую пушчу і нельга выключыць, што на гэтай тэрыторыі існавала арганізаванае манаскае жыццё, а манахі былі надзелены ахвяравальнікамі маёмасцю. У такіх абставінах тастамент Масальскага становіцца аўтарытэтным, паколькі дакументы паказваюць, што зямельная маёмасць Аляксандра Хадкевіча не была да канца апісана.

Нарваўскі манастыр у XVII-XVIII стагоддзях праўдападобна быў адзіным месцам *благочестия* для насельніцтва, якое выстаяла насаджэнне уніі, паколькі навакольныя цэрквы былі уніяцкімі. Месцазнаходжанне манастыра можна аднесці да ўрочышчаў Манастыр, Крыначка і Жураўлік, якія знаходзяцца на грунтах вёскі Адрынкі. Старэйшыя жыхары Адрынок расказваюць, што яшчэ ў пачатку нашага стагоддзя відны былі абрысы каменных фундаментаў з-пад манастырскіх будынкаў. Паводле крыніц, Узнясенскі манастыр у Нарве яшчэ ў 1786 годзе ўваходзіў у састаў Віленскай архімандрыі і быў падначалены ігуменам Свята-Духава манастыра ў Вільні. Манастыр канчаткова распушчаны быў у 1824 годзе. Толькі ў 1866 годзе ў Адрынках ва ўрочышчы Крыначка была ўзведзена капліца св. Іаана Залатавуста і ў нейкай ступені напамінае колішні Нарваўскі манастыр.

**Р. С.**

# Пройдзеныя шляхі-пуцявіны

**(запіскі, успаміны, аўтабіяграфія)**
**Частка XII**

У Кунцаўшчыне ў тыя часы не было ні тэлевізараў, ні радыё. Але ўсё-такі жыццё ў вёсцы не было такім ужо сумным, як можа здавацца нам зараз. Сяляне ўмелі весяліцца! Нягледзячы на беды, сваю працу аблягчалі песнямі, жартамі, казкамі, рознымі гульнямі. Памятаю, як будучы семінарыстам, ехалі мы з бацькам вечарам дахаты, то ў мяне было такое ўражанне, быццам бы ўся зямля спявала. У кожнай вёсцы пасля працы пад хатамі збіраліся хлопцы і дзяўчаты і спявалі да позняй ночы народныя беларускія песні. А ў ціхі летні вечар усе гэтыя песні навакольных вёсак зліваліся ў адзіны вялікі, магутны хор і здавалася, што ўся зямля спявае, прыгожа, урачыста...

Вясна абуджала ўсю прыроду. Яе чакалі. Самым урачыстым веснавым святам лічыўся Вялікдзень. Да гэтага свята рыхтаваліся ўсе, і старыя, і малыя. Перад святам, на Благавешчанне, кожны раз прылятаў бусел, садзіўся на сваё гняздо на тапалі, якую пасадзіў яшчэ мой прапрадзед Мацей Цыхун, і працяглым клёкатам абвяшчаў кунцаўшчанам, што наступае Вялікдзень. Бусла ўсе лічылі святой птушкай, да яго адносіліся з вялікай пашанай. Лічылі, што ён прыносіць людзям шчасце, ахоўвае вёску ад пажараў, няшчасных выпадкаў, ад страшных хваробаў, маровага паветра.

Цікава да гэтага вялікага свята рыхтаваліся хлопцы, мужчыны і нават дзяды. Кожны з іх выбіраў *зубаючы* (стукаючы аб зубы) моцныя яйкі, каб у час велікодных святаў іх біць. Гэта была вельмі азартная гульня. У маёй вёсцы Кунцаўшчыне было шмат азартных бітакоў яек, як старых, так і маладых асоб. Адзін з іх — Якаў Сурба, які не толькі выбіраў моцныя яйкі ў сябе дома, а запрагаў кабылу ў воз і ездзіў па шляхецкіх аколіцах і там выбіраў моцныя яйкі, плацячы шляхцічам у некалькі разоў даражэй.

Раніцай, у першы дзень Вялікадня, пасля ўсяночнай, калі людзі разгавеўшыся яшчэ спалі, азартнікі гэтай гульні ў яйкі, групкамі па пяць-шэсць чалавек, запаўнялі вуліцу Кунцаўшчыны, асабліва хлопцы. Яны зубалі яйкі, абмяркоўвалі, спрачаліся ў каго мацнейшае, затым білі. Адзін трымаў яйка, а другі зверху біў сваім яйкам, спачатку нос яйка, а пасля — пятку, пуху, як называлі. Калі паб'е нос, затым пятку, забіраў пабітае яйка, якое называлася ўжо шупляй. Калі каму пападзе моцнае яйка, то яго ўладар за дзень навыбівае шмат шупляў. Поўныя кішэні прывалачэ. У каго слабыя яйкі, той за свята ўсе папрабівае, застанецца пад канец Вялікадня без яек і свята яму — не свята. Яшчэ азартней гэтая гульня ў яйкі праводзілася каля лашанскай царквы ў першы дзень Вялікадня. Азартнікі гульні ў яйкі ў царкву нават і не заходзілі, увесь час праводзілі на цвінтары, на якім збіраліся хлопцы і мужчыны з усіх вёсак Лашанскага прыхода. У гэтай гульні былі і такія хлопцы-рызыканты, якія падраблялі яйкі, каб былі моцныя: сырыя яйкі праколвалі, выдувалі і залівалі смалой. Такія яйкі называліся смалянымі. І з-за такіх яек часта ўзнікалі бойкі, у некаторых выпадках даходзіла да панажоўшчыны. На вялікі жаль, ні адзін з этнографаў не зафіксаваў гэтага відовішча, што калісьці адбывалася каля лашанскай царквы. Няма здымкаў і дакладнага апісання гэтай азартнай гульні.

Кожная сям'я да Вялікадня рыхтавала сваю каробку плеценую з саломы і лазы, у выглядзе прадаўгаватага посуда з вечкам. У каробку клалі пірагі, купмяк, каўбасы, сыр, масла, яйкі, хрэн, соль. У заможных гаспадароў былі поўныя каробкі, а ў бедных — паўпустыя. Сяляне зносілі каробкі ў суботу перад Вялікаднем пад адну хату, адчынялі вечкі, а прыехаўшыя з лашанскай царквы святар з дзячком свянцілі іх. За гэта сяляне давалі ім яйкі і пірагі.

Пасля Вялікадня рэшткі са свянцонай каробкі гаспадар клаў у настольнік, з якім абходзіў палеткі азімых і яравых пасеваў і закопваў рэшткі свянцонкі ў зямлю.

Цэлую ноч першага дня Вялікадня не давалі заснуць галокальнікі (валачобнікі). Адны адыходзілі, праспяваўшы песні, другія прыходзілі. Для дарослых і дзяцей галокальнікі спявалі песню: „Хадзіў Хрыстос сам па зямле", а для дзяўчат — „Канапельку". За гэта ім давалі яйкі, каўбасы, пірагі, часам і кумпякі.

У велікодныя дні малым дзецям і падросткам хрышчоныя бацькі давалі фарбаваныя яйкі, так званае „валачонна", два, тры, а часамі, чатыры-пяць штук. Мне і брату Івану заўсёды давала валачонна хрышчоная матка Жэня Салейчыкава — па чатыры яйкі і па куску пірага. Бацькі хрышчонага ў мяне не было, ён рана памёр. Мне было крыўдна глядзець, як усім хлопцам іх хрышчоныя бацькі даюць валачонна, а мне не было каму.

***(працяг будзе)***

**Апанас ЦЫХУН**

# „Наша ніва" і ўсходняя Беласточчына

**Частка 23**

Цікавая вестка аб вёсцы Шчыты з'явілася ў 18 нумары „Нашай нівы" за 1909 год. Вестка вельмі кароткая але істотная з пункту гледжання гаспадарчай актыўнасці мясцовых жыхароў.

„У нас адкрываецца сельскі банчок, крэдытнае таварыства. Можна будзе мужыкам класці туды грошы і даставаць пазычкі. Банчок будзе для Шчытоў, вёскі Галадоў і вёскі Крывой. Гасударственны банк пазычае тысячу рублёў. *Шчытовец*".

У 22 нумары тыднёвіка аўтар, які падпісаўся псеўданімам Васіль, пашырыў папярэднюю інфармацыю аб гаспадарскіх ініцыятывах жыхароў Шчытоў.

„Сяло Шчыты, Бельская павета, Гродзенская губерня. 17 мая ў нас маняцца адкрыць хаўрусны банчок. Паслалі прашэнне губернатару пазволіць залажыць супольную краму.

Закупілі ўжо вялікі гмах, дзе маняцца быць: бясплатная бібліятэка і чытальня імені Паўленкава, супольная крама, склады насення і гаспадарчых прыладаў.

У скорасці маем надзею, калі толькі пазволяць, зрабіць і сельскагаспадарнае таварыства. *Васіль*".

Чытаючы гэтую інфармацыю памятайма, што датычыла яна падзеяў дзевяностагадовай даўнасці. Ці ж не сведчаць яны аб выключным розуме ды ініцыятыўнасці беларусаў у мінулым? Ці сёння ёсць на ўсходняй Беласточчыне хаця б адна вёска, якая ініцыявала б такія смелыя планы і намеры?

Многа публіцыстычнага матэрыялу, тэматычна звязанага з усходняй Беласточчынай было змешчана ў 28—29 нумары „Нашай нівы" за 1909 год. Апублікаваныя тут інфармацыі адносіліся да Кленікаў, Крывой, Трасцянкі і Бельскага павета ўвогуле. Па свайму настрою публікацыі мелі розны характар. Праяўляўся ў іх аптымізм, але гучэла таксама і песімістычная струна.

Да несумненна аптымістычных трэба аднесці карэспандэнцыю з Кленік, падпісаную псеўданімам Кабета Наталка:

„Сяло Кленікі, Бельскі павет, Гродзенская губерня. Колькі карысьці нашым сялянам даюць бібліятэкі-кнігарні, добры прыклад можам бачыць і пазнаць з нашага сяла. Яшчэ нядаўна тут залажылі такую кнігарню, а народ ужо палепшаў, паспакайнеў. Ёсць, ёсць яшчэ грашкі і найбольш прычыны іх трэба шукаць у манапольцы, але ўжо не напіваюцца так, каб у бяспамяцтве адгрызаць адзін другому насы, як было ў суседнім засценку. Мужыкі сталі пазнаваць і шанаваць сваю павагу чалавека і разумець, што і яны такія як усе — людзі. Не дрыжаць ужо яны так перад сваім начальствам, як даўней, бо чытаючы кнігі, спазналі добра, што можна, а чаго не можна. Карыстаюць з гэтых кніжак не толькі мужчыны, але і кабеты грызуць іх як рэпу, нават сваркі цяпер паміж іх менш, чымсь даўней, чутно, а што дзяцей — дык тых і не адагнаць ад чытання. Можна напэўна спадзявацца, што калі так пойдзе далей, то нашы сяляне зробяцца культурнымі, разумнымі людзьмі".

Нават калі б у гэтай моцна аптымістычнай інфармацыі былі элементы перабольшаныя, дык у нас няма падстаў, каб не верыць асобе, якая была непасрэдным назіральнікам такіх радасных і пазітыўных перамен у сялянскім побыце.

Да меней аптымістычных, а па сутнасці да песімістычных трэба аднесці ананімную інфармацыю, якая тычылася Бельскага павета. Вось яе змест:

„Бельскі павет, Гродзенская губерня. Тутэйшыя сяляне хацелі зрабіць хаўрусную краму, але губернатар не пазволіў; так сама не пазволілі сялянам зрабіць сельскагаспадарскае таварыства; а тым часам у скорасці маняцца зрабіць у вёсцы піўную. Сяляне адной вёскі ў прашэнні да губернатара пішуць так: „Сельскохозяйственные общества среди поляков-земледельцев приносят им огромную пользу; евреи имеют свои общества взаимопомощи и кредитные товарищества. Просим права поддерживать друг друга в материальном отношении и мы православные".

Праўдападобна інфармацыя гэта адносілася галоўным чынам да вёскі Шчыты, а яе аўтарам быў Васіль — які падпісаўся пад ужо прыведзенай публікацыяй у 22 нумары „Нашай нівы". Такая думка знаходзіць падтрымку ў тым факце, што ў гэтых двух звестках выступае характэрнае, рэдка ўжыванае слова „маняцца", якое абазначала „стараюцца, намерваюцца". З гэтага трэба зрабіць вывад, што жыхарам Шчытоў не ўдалося рэалізаваць усіх высакародных намераў.

Аб далейшых двух невясёлых інфармацыях з вёсак Крывая і Трасцянка раскажу ў наступны раз.

**Алесь БАРСКІ**

**Успаміны з мінулай эпохі**

# У пушчу на адпачынак!

Ужо даволі даўно я пачаў заўважаць, што штосьці не так з нашым сацыялістычным грамадствам або са мной. Або яно, наша грамадства, тэпае ў няправільным напрамку, або я не паспяваю за ім, не дарос да яго. І раскол між намі ўвесь час пагрозліва нарастаў. А вось на чым баку была рацыя, я не ведаў. Многае мне было зусім чужым, незразумелым, і часценька адчуваў сябе, як кажуць, самотным у натоўпе. З аднаго боку ўсемагутнай станавілася ў нас мамона, а з другога — па-варварску нішчылі мы самыя сапраўдныя каштоўнасці. Шакіравалі мяне як дробязная і ўніжаючая прага нажывы ў чалавека, так і вялікапанскі жэст. Не разумеў таксама і не разумею гэтай бесперапыннай спешкі кудысьці, мітусні. Гледзячы на гэта так і хочацца крыкнуць на ўсю глотку: „Куды ж вы прэцеся, ідыёты?!" Кожны ж крок набліжае да смерці.

Адзіным ратункам у цяжкіх хвілінах была для мяне пушча — наша знакамітая Белавежская пушча. Толькі яшчэ там мог я адпачыць і набрацца сіл па-сапраўднаму. Хаця, на жаль, і туды нахабна пачала прарывацца наша „цывілізацыя", і часамі можна нарвацца там на такое, што больш сканфузішся, чым адпачнеш. Як са мной, напрыклад, здарылася аднойчы.

Наступаў дзень 19 ліпеня. Прачнуўся я вельмі рана. Вакол мяне была назойлівая ціішыня і спакой, а ў вокны рваліся радасныя промні ранняга летняга сонца. Такіх цудоўных дзён бывае нямнога.

— Грэх праспаць такое цуда, — падумаў я. Ціхенька, каб не пабудзіць сям'ю, я ўстаў, пабрыўся, памыўся, апрануўся, сеў на веласіпед і ў пушчу. А ў пушчы — Божа мой — трайная благадаць.

Выбіраючы найглушэйшыя лясныя сцяжынкі я ўсё ехаў далей і далей. І даехаў у такую гушчэчу, што далей трэба было толькі весці, потым несці, а яшчэ потым і зусім пакінуць веласіпед і прадзірацца пешшу. Ад сасны да сасны, ад бярозы да елкі залез у такую глухамань, дзе — як здавалася — жывуць толькі ваўкі. Стаю, гляджу, разявіўшы ад захаплення рот, і захапляюся:

— О Божа мілы, прыгажосць, ідылія ж якая?!. Вось дзе першабытны лес, і дзе, бадай, першай чалавечай ступнёй ёсць мая інтэлігенцкая ступня... Як тут дыхаецца і думаецца шырока і маштабна... А паветра — пагалоўны азон і арамат, — радасна разважаў я...

І раптам мой орган нюху пачаў вылаўліваць нейкія чужыя араматы і азону пахі.

— Напэўна гэта пах нейкіх лекавых траў, — тэарэтычнага адказу шукаў я...

А гэта што за чартоўшчына?!

Перада мною ў самым утульным і маляўнічым куточку першабытнага лесу выразна бачу, — ну што б вы падумалі? — самую сапраўдную зямную прозу: памёт людскога падабенства.

— Не! Не! Быць таго не можа! Ваўкалак тут пабываў, няйначай, — не без страху падумаў я. — Але што тут робіць новенькая стазлатовая купюра, каля гэтага? — далей па-філасофску разважаў я. Цьфу ты! — нарэшце здагадаўся, — гэта ж ужытая была яна ў якасці туалетнай паперы. Ні ваўкалак, ні іншая скаціна так бескультурна паступіць бы не маглі! Значыць, так і быць, — падсумоўваю, — гэта след прабывання тут вянца прыроднага тварэння... А каб цябе было раздула, а каб твая задніца стала сядзібай гемарою, а суседні з ёю орган сядзібай іншых нечысцяў, хамула ты...

Гэтая знаходка так абразіла мяне, што я проста не знаходзіў сабе месца, а ўся пушчанская чароўнасць змеркнула ўраз. Ледзь адшукаў я свой веласіпед і даў драла з пушчы. І як жа ж тут, скажыце, не абразіцца за такі ўчынак, тым больш, калі зрабіў яго прадстаўнік роду людскога?..

Можна, канешне, прабачыць гэтаму дрыстуну тое, што пабываў ён у гэтым месцы раней мяне. Можна б прабачыць і тое, што напаскудзіў у такім цудоўным куточку; ну, што ж, бывае. Але ўжываць родную валюту, няхай сабе і не цвёрдую тады, у такой зневажальнай якасці, і то ў лесе! — даравать такое ніяк нельга! Так не паступіў бы нават мільянер у багацейшых заходніх краінах, а ў нас — вось якія вялікапанскія манеры! Актуальную цэлыя тысячагоддзі старажытнарымскую максіму „Pecunia non olet" (Грошы не смярдзяць) пазбаўляем актуальнасці мы — сусветныя даўжнікі і беднякі.

**Васіль САКОЎСКІ**

Адгалоскі

# Камуна з людскім тварам

Магу згадзіцца з допісам Мікалая Лук'янюка п.з. „Ці была ў нас камуна?" („Ніва" н-р 27), але хачу і некалькі слоў ад сябе дадаць да гэтай шырокай тэмы. Камуна не была ў нас савецкага тыпу, бо палякі ад вякоў ведаюць смак свабоды і яны высока цэняць свае нацыянальныя пачуцці, гісторыю, культуру, абычаі, родную мову і — найважнейшае — каталіцкую веру. Яны не пераставалі верыць у Бога, не адцураліся сваіх прынцыпаў і іх непасільна было зламаць. А камуністычнае кіраўніцтва дзяржавы добра ведала смак бальшавіцкага раю за мяжой. А беларусы мяккія, і бальшавікам лёгка ўдалося іх закабаліць і адцурацца ад роднай мовы. І сёння Беларусь не што іншае, толькі пятае кола расейскага воза.

На шчасце, нам пашанцавала жыць у Польшчы, дзе сапраўднага таталітарызму ніхто на сваёй скуры не адчуў. Партыйныя, вайсковыя, міліцыянеры, хаця скрытна, вянчаліся ў касцёлах, хрысцілі сваіх дзяцей; хаця добра вядома, што вянчанне жыцця не дае, бо шмат сямейных пар развялося і далей разводзяцца. Не рабілі гэтага толькі баязлівыя і фанатыкі. Але вось, калі „Салідарнасць" выйграла выбары, тады ўсе яны першымі пабеглі ў касцёлы хрысціць сваіх, нават дарослых, дзяцей. Помню тых, якія крычалі, што Бога няма, а рэлігія гэта опій для народу. Гэтак, калі яны былі каля карыта, але калі змянілася ўлада, яны сталі першымі падлізнікамі царквы і пачалі пісаць вялікія сачыненні пра Бога і царкву.

Такой камуны, якая была ў нас, можна толькі шкадаваць. З Захаду, калі каму было трэба, можна было заказаць цікавыя рэлігійныя кніжкі, яны даходзілі і ўлады да гэтага замнога не чапляліся. Найгорш, калі свой сабака ўкусіць і данясе; тады начальства рад не рад мусела нешта рабіць або хаця пастрашыць.

Мікалай Лук'янюк непрыхільна адносіцца да іншых рэлігійных адгалінаванняў, пішучы „сектанты будавалі свае бажніцы". А чаму менавіта „сектанты"? Гэтым чынам паніжаецца аўтарытэт баптыстаў, пяцідзесятнікаў і іншых веруючых, якія маюць такія самыя правы, як католікі ці праваслаўныя. За разбоі, зладзействы ці іншыя злачынствы не сядзіць ні адзін „сектант", а турмы забіты да адказу католікамі і праваслаўнымі. Ці не ведае пра гэта паважаны спадар Лук'янюк? „Сектанты", гэта пагардліва, бо абазначае людзей, якія адкалоліся ад пануючай царквы і як ерэтыкі дзіка жывуць на пустыні. „Сектантаў" жыве ў Польшчы мо і малая групка, але ім можна пазайздросціць, бо яны зла не робяць, не лаюцца, не п'юць гарэлкі, не кураць. А калі чалавек у бядзе, стараюцца яму дапамагчы, нягледзячы, хто ён. У Злучаных Штатах пражывае каля сарака мільёнаў „сектантаў", быў нават прэзідэнт-баптыст.

Паважаны спадар Лук'янюк! Калі ваша жонка ляжала ў шпіталі, дык адна „сектантка" з Чаромхі шчыра і ад сэрца апекавалася ёю і дапамагала; вы пра гэта пісалі ў „Ніве" і дзякавалі ёй. А тут маеш...

Мянушка „сектант" несправядлівая ў адносінах да тых, што не пакланяюцца ідалам, толькі ідуць шляхам апосталаў з часоў Хрыста. І галоўным аўтарытэтам у іх Біблія. Здараюцца і сярод іх слабыя ў веры, але той слабы, калі зробіць нешта дрэннае, стараецца гэта як найхутчэй выправіць і адкрыта перапрасіць пакрыўджанага. А ці сярэдні католік або праваслаўны такое зробіць? Хутчэй будзе судзіцца, біцца, сварыцца да зубоў; часта апошнія грошы на суды аддасць.

І на гэтым канчаю, бо як гавораць: далей у лес — усё больш дрэў.

**Мікалай Панфілюк**

# Гіне ўсходняя сцяна

У 1964 годзе пашанцавала мне быць на прэс-канферэнцыі, якую арганізаваў Ваяводскі камітэт ПАРП у міліцэйскім клубе пры тадышняй вуліцы Леніна, а сёння Браніцкага. Канферэнцыя тая была склікана з нагоды пабыўкі ў Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі беластоцкага пісьменніка Аляксандра Амільяновіча; ён тады пісаў кнігу „Дэсант «Дальняя»" пра нашага земляка Яна Анацкіа, родам з Ягуштова, які камандаваў згаданым атрадам. Сёння прыпомнілася мне тое, што тады сказаў сп. Амільяновіч. А ён сказаў, што шмат разоў давялося яму пачуць мянушку „Polnische Schweine" і што немцы гаварылі яму адкрыта, што прыедуць у Польшчу паляваць на зуброў у Белавежскай пушчы. Пры фашыстах немцы планавалі злучыць Белавежскую з Кнышынскай пушчы, а насельніцтва, якое пражывала між імі, вывезці на прымусовыя работы ў Прусію, пакідаючы толькі загоншчыкаў звярыны і даглядальнікаў лесу.

Цяпер, калі ад згаданай сустрэчы мінула больш трыццаці гадоў, абязлюджваецца ўсходняя сцяна — так, як калісь планавалі абязлюдзіць яе немцы. Толькі надлясніцтвы не маюць грошай, каб пасадзіць лес і на палях ды сенажацях буяе пустазелле. Растуць крапіва і асот, бо няма каму касіць і дагледзець меліярацыйныя равы. Дзяржаўная зямля ляжыць аблогам і ніхто не падумае, каб перадаць яе надлясніцтву ды пералічыць яшчэ грошы і пасадзіць лес; гэта ж зялёныя лёгкія не толькі нашай краіны, але і цэлай Еўропы.

Гіне ўсходняя сцяна, гіне наша культура — няхай тады хаця расце лес пакуль мы жывём, каб ім палюбавацца.

**Мікалай Лук'янюк**

# Конкурс „Нівы" завершаны

Пачынаючы з 23 нумара ад 7 чэрвеня, у дзесяці чарговых нумарах нашага штотыднёвіка змяшчалі мы пытанні па геаграфіі, гісторыі і культуры Беларусі. А вось правільныя адказы:

1. Над ракой Нёман знаходзіцца горад **Гродна**.
2. Першай сталіцай беларускай дзяржавы быў **Полацк**.
3. „Песню пра зубра" напісаў **Мікола Гусоўскі**.
4. Цэнтральная вуліца Менска — **праспект Скарыны**.
5. Першы нумар газеты „Наша ніва" выйшаў у **1906 годзе**.
6. Цішка Гартны — літаратурны псеўданім **Змiцера Жылуновіча**.
7. Родным горадам Марка Шагала з'яўляецца **Віцебск**.
8. Паэму „Пан Тадэвуш" на беларускую мову пераклаў **Браніслаў Тарашкевіч**.
9. Нясвіж быў рэзідэнцыяй роду **Радзівілаў**.
10. Самае вялікае возера Беларусі — **Нарач**.

У рэдакцыю паступіла 18 адказаў. У выніку жараб'ёўкі, праведзенай у рэдакцыі 24 жніўня 1998 года трохгадовай Нінкай і шасцігадовым Алікам, узнагароды атрымалі:

500 зл. — **Казімір Радошка** (Свебадзіцы),

300 зл. — **Міхал Касцюкевіч** (Гданьск),

100 зл. — **Лідзія Скепка** (Чыжы), **Уладзімір Клімюк** (Беласток).

Падпіска „Нівы" на 1999 год — **Анатоль Бахарэвіч** (Беласток), **Марк Рэдзімскі** (Гдыня),

Даведнікі і альбомы — **Ірэна Лукша** (Гайнаўка), **Міхал Байко** (Беласток).

Пераможцаў нашага конкурсу сардэчна віншуем!

# Рыхтуецца зборнік

Завяршаюцца рэдакцыйныя працы над літаратурным зборнікам, які будзе плёнам III Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы. Выдаўцы хочуць змясціць у зборніку здымкі аўтараў публікаваных твораў. На жаль, не ўсе ўдзельнікі конкурсу надаслалі нам свае фатаграфіі. Яшчэ раз сардэчна просім даслаць нам свае здымкі Ірыну Радзіванюк, Юстыну Каралько, Ігара Іванюка, Аню Садоўскую і Еву Ачою. Спадарыню Еву Ачою просім яшчэ скантактавацца з рэдакцыяй у справе атрымання ўзнагароды.

**Рэдакцыя**

# Вер — не вер

Астронку! Такія сны мне ў апошні час сняцца, што проста жах чалавека агортвае.

Спалася мне ў тую ноч кепска. Прыснілася, быццам я і нехта з маёй сям'і (але хто — не ведаю) знаходзімся ў чужой кватэры. Мы прыйшлі сюды, каб абакрасці гэту кватэру.

Гляджу: а божачкі, гэта ж кватэра нашага суседа! Мы нешта бярэм там (фактычна, я не бачу, што гэта, але ведаю, што мы прыйшлі сюды ў якасці зладзеяў), і я заўважаю, што гэты сусед дома. Ён ляжыць у другім пакоі, а не ў тым, у якім мы знаходзімся, і спіць, павярнуўшыся да сцяны.

Не ўспрыняла я гэта як кашмарны факт. Не было ніякай панікі. Проста мы пастараліся зрабіць сваю „работу" хутчэй, а тады пацікху выйшлі. Гаспадар спаў моцным сном і зусім не заўважыў, што нехта быў у яго хаце. На гэтым я прачнулася. Божа мой, жыццё пражыла я, ні ў каго ніколі зярняці чужога не ўзяла, а тут такія паскудныя рэчы сняцца.

Даражэнькі Астроне! Скажы праўду, не скрывай! Пэўна прадвяшчае мне гэта нешта вельмі кепскае...

**Надзя**

Дарагая Надзя! Я ўжо не раз адзначаў у сваіх адказах, што падобныя сны часта сняцца людзям, якія ў жыцці б нават муху не пакрыўдзілі. Я разумею, што ты пасля такога сну адчуваеш сябе ніякавата, тым больш, што ты напісала пра гэта ў газету, ды падзялілася сваімі невясёлымі роздумамі са мною. Аднак жа зразумей: праўдзівы злодзей не меў бы ў такім выпадку мукаў сумлення і нікуды б, не давядзі Бог, не пісаў, пакольki гэта яго звычайны занятак.

Аднак жа не хачу маніць: нічога добрага твой сон не прадвяшчае. Зладзейства ў сне абазначае небяспеку ці нейкую страту, а найбольш — варожасць. Разглянься навокал, мо будзеш ведаць, каму можна адкрыць сваё сэрца, а ад каго трэба ўцякаць як мага далей. Жадаю поспеху!

**Астрон**

# Імі ганарыцца нараўчанская школа

Напрыканцы канікулаў прыгадаем вучняў пачатковай школы ў Нараўцы, якія былі лаўрэатамі ваяводскіх элімінацый прадметных конкурсаў у гадах 1996-1998. І так, у 1996 годзе званне лаўрэата матэматычнага конкурсу заваяваў вучань восьмага класа Мар'юш Герасімюк і ў 1997 годзе ў конкурсе нямецкай мовы — Вераніка Вайцяхоўская.

Асабліва плённым на лаўрэатаў з нараўчанскай ПШ быў гэты год: у конкурсе рускай мовы лаўрэаткамі сталі васьмікласніца Эмілія Недзьведзь і сямікласніца Барбара Харкевіч, а ў матэматычным — сямікласніца Уршуля Павільч.

**(гай)**

*Ніва*, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*

E-MAIL: niwa@kurier-poranny.com

INTERNET: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)

Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).

Drukarnia: „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Міpановіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1998 r. upływa 5 września 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1998 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка

## Вася і залатая рыбка

Сох Вася, сох не беразе Семяноўскага вадасховішча, пёкся на сонцы, а рыбка ўсё не клявала. Ну, каб хоць плотачка якая, хоць келбік з мізінец — з чыстым сумленнем сказаў бы Верцы, што пашкадаваў і выпусціў недарослую рыбіну назад. А тут, людкове — нічагусенькі!

Раптам паплавок удрыгнуў, лёска затрапятала на хвалях. Вася падарваў вудачку. На кручку матлялася маленькая залатая рыбка.

Хапанула рыбка паветра, яшчэ больш вытрашчыла свае круглыя вочкі і ўзмалілася:

— Вася, даражэнькі, адпусці мяне дадому...

— О ж ты, рыбка, ты ж па-нашаму ўмееш! То і дамовіцца можам, каб традыцыйна ў тры разы дала мне тое, аб чым мару?

Пачухаўся Вася па патыліцы, дый прамовіў:

— Усё ж параюся ў Веркі, — дадаў, набраўшы вады ў бутэльку PET з-пад „пепсі", упусціў туды рыбку галавой уніз.

Веркі, як заўсёды, дома не было. Пабегла, пэўна, закруціўшы вёрткім худым задам, да суседкі глядзець „Клан". Зазірнуў Вася ў каструлі — адно зялёнае халоднае шчаўе плавае, ледзь засквaранае, і паўяечка блішчае мутным вараным жоўтым вочкам на паверхні. Ну, дагадзіла, каб яе!..

— А каб табе тыдзень адрыгалася гэтым шчаўем! — зароў Вася і рад не рад зачарпнуў апалонік супу ў міску.

Паставіў Вася бутэльку з рыбкай у пакоі пад фікусам, каб не так горача беднай было. Уключыў тэлевізар, сам заняўся салёным супам.

— Ведаш, рыбка, Верка ў мяне някепская, калі б падумаць, ды каб хоць крышачку тлусцейшая была. Тыя худыя то ж пячайкі страшныя. Жыць не даюць чалавекам. А яшчэ і пахуднець яшчэ больш уздумала славутым супам, на які наш прэзідэнт штодня насядае, каб скінуць тлушчык. А баба ж павінна мець таго цела хоць толькі, каб танцуючы з ёю, рук аб ейныя рэбры сабе на параніць. Так з кілаграмаў з дваццаць дадаць маёй кабеце, была б бабка, гого! Да таго ж я дужа рудых люблю, хлопцы кажуць, што проста тыгры яны ў пасцелі. А што асталося мне ў жыцці, толькі марыць...

Вася пашкрэб лыжкай па пустым дне міскі.

— Ну, што, рыбка, давай будзем думаць пра жаданні...

Тут раптам з грукатам адчыніліся дзверы.

— А госпадзе, а хай яго халера з тымі дзвярыма! Гік-гік-гік! — пачуў Вася жончын голас.

— Гік-гік-гік! А хай яго ліха з гэтым супам! Адрыгаецца так, што мала не задушыць! — заенчыла Верка.

Але ці то яна?! Вася вытрашчыў вочы: перад ім стаіць, узяўшыся пад бокі ні то ягоная жонка, ні то не: з рудою андуляцыяй ускудлачанай на галаве, а тоўстая, што дзіва, як яна цераз тыя дзверы пралезла!

Залатая рыбка задаволена пазірала з-за пластмасавых сценаў свае турмы. Рада была рыбка — зараз жа панясуць яе назад дадому!

А як вы думаеце, хоць падзякаваў Вася залатой рыбцы адпаведна для яе стараннаў?..

**Міра ЛУКША**

Фрашкі пра нашых

## Дон Ус з Ля-Чаромхі

Надаеў дон Ус чыноўнікам
чыгункі і бягункі,
Няўрымслівы рыцар
са скураной торбай.
Мог складаць хоць вершы
ці пісаць малюнкі,
А піша ён проста
атрамантам чорным.
Пахваліць таксама,
што аж смачна ў роце,
Так апіша бяседу
і фэст у мястэчку,
Скварку, сварку, пагоду
у наскім заплоцці...
Таемна адчыніць нам
скарбніцу-тэчку...

## Якая кампанія

Трапіў Канстацін на здымак з Зянонам
Зусім выпадкова. Абое ж — мужчыны.
Кожны прыгажун па сваіх канонах,
Да таго ж патрыёты аднае Айчыны.

Кастусь, не хвалюйся, што скажуць у Мінску.
Улады мяняюцца, адзін Бог над намі.
Чыстыя ў вас рукі, бо вы не па-свінску
Разлічыліся абое з, што Бог даў, гадамі.

А скажуць гісторыя і памяць у народзе,
З кім на здымку гонар застацца нам з вамі.
А брахня і зброя — заўсёды падводзяць
Да дурнога плота. А рэшта — маўчанне.

## Папрокі прарока

Малы чалавеча, Вандале Арлянскі
З доўгім носам ды кароткай самапіскай!!!
Ты куды ўсё прэшся, хаме ты бяспанскі, —
Каб чапаць святых, праведных, прачыстых?!!

Калі цябе хваляць, — кланяйся ў падзяцы,
А калі жартуюць, нават далікатна,
То лупі у морду, у каплех, па срацы
Няўдзячных паскудаў, урэдных правакатараў!

**Вандал АРЛЯНСКІ**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. найменшая фізічная колькасць энергіі, 4. Усевалад, беларускі пісьменнік (1915—61), 6. сяброўка голаду, 7. індзейскі жыхар Мексікі, 9. напр. кісларод, 11. бяздомны, 12. гульня Гары Каспарава, 13. не адзін і не тры, 15. горад на поўначы Беларусі, 17. прыстасаванне для прывядзення ў дзеянне механізма, 18. Владзімеж, відны польскі палітык, любімец беластоцкіх беларусаў, 19. грашовае спагнанне за няправільныя выдаткі.

**Вертыкальна:** 1. вострая прыправа да ежы, 2. зладзейскі акт, 3. аргенцінскі танец, 4. Карл фон, прускі ваенны тэарэтык (1780—1831), 5. Надзея, аўтарка зборніка „Сезон у белых пейзажах", 6. каменная гара з крутымі схіламі, 8. адмоўны электрод, 9. змяя, 10. абрэвіятура дзяржавы Майкла Джэксана, 14. сын Міндоўга, вялікі князь літоўскі (1223—68), 16. куст з белымі пахучымі кветкамі, 17. промах.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 29 нумара**

**Гарызантальна:** страла, маніста, лебяда, талакно, неаліт, ракурс, прыстаў, мангол, аколіца, падрыў.

**Вертыкальна:** аматар, гніляк, ясакар, салон, рыбка, людзі, ешыбот, Латвія, таўкач, атара, уйгур, сплаў.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Гутараць два сябры; адзін з іх расказвае пра сваё паляванне на мядзведзя:

— Бягу за ім праз кусты, а ён раптам затрымаўся, павярнуўся і пачаў ісці ў мой бок. Дык я тады раптоўна зняў з плячэй вінтоўку, але паслізнуўся і ўпаў на зямлю...

— Я ў такой сітуацыі нарабіў бы ў штаны, — прызнаецца субяседнік.

— А ты думаеш, што я на чым пакаўзнуўся?

* * *

Паліцыянт затрымлівае вадзіцеля:

— Прашу дакументы для кантролю!

— Гэта немагчыма: я з'яўляюся членам клуба ананімных алкаголікаў!

* * *

Паляўнічы гурток запрасіў да сябе міністра з Варшавы. Пасля палявання зрабілі падлік, у выніку якога аказалася, што пан міністр застрэліў трыццаць зайцаў.

— Гэта сапраўды вялікі поспех, — узрадаваўся міністр, — бо калі добра помню, дык я прыхапіў з сабою толькі дваццаць патронаў.

* * *

— Пан паляўнічы, — пытае мужык, — штоноч прыходзіць воўк і крадзе мае авечкі; што маю рабіць?

— Палажыце перад кашараю мяса. Воўк з'есць мяса і забудзе пра авечкі.

Праз тыдзень спатыкаюцца яны зноў:

— І што, — пытае паляўнічы, — памагло?

— Быццам бы так: толькі цяпер прыходзяць два ваўкі.

* * *

— Што такое радасць мацярынства?

— Гэта пачуццё, якое адчувае жанчына, калі ўсе дзеці спяць.

* * *

— Муж, хто гэта такі?

— Гэта намеснік каханка па фінансавых пытаннях.

* * *

— Халасцяк ненавідзіць гэтых аднолькавых кватэр у многасямейных гарадскіх будынках.

— Чаму?

— Бо калі рана будзіцца, не ведае, у якой дзяўчыны правёў ноч.